
Фота-ўспамін Курашава→4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


КАЛЯНДАР 2014 праз тыдзень!

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 50 (3005) Год LVIII | Беласток, 15 снежня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Сюрпрызам для некаторых магла быць кампіляцыя драмы „Yerma” з 1934 г. іспанскага драматурга і паэта, адкрытага гомасексуаліста, закатаванага ў 1936 годзе Федэрыка Гарсіі-Лоркі і „Кнігі цудаў перад іконай Божай Маці ў Старым Коніне адбыўшыхся”, апісваючай ласкі, якія атрымалі вернікі ў 1716-1724 гадах. Да гэтага яшчэ „тутэйшыя” песні выкананыя белым спевам. Аднак усё тлумачыцца тым, што паказалі дзве маладыя **акторкі Іаанна Стэльмашук-Троц і Юліяна Дораш** у спектаклі „ПустаЯ», прэм’ера якога гасцінна адбылася 8 лістапада ў Беластоцкім лялечным тэатры, інаўгуруючы таксама дзейнасць новай тэатральнай сцэны (без пастаяннай сядзібы): „Czrevo” („Чрэва”).

# Фамар - Ерма - ПустаЯ

Зала БЛТ з цяжкасцю памясціла гледачоў. Іаанна Стэльмашук-Троц, кіраўнік гэтага тэатра, вядомая сваім гледачам Беласточчыны (і не толькі) манадрамай „Я й у полі вэрбою росла”, паводле апавядання Аксаны Забужко, прадстаўленага — як гэта падкрэслена рэцэнзентамі — упершыню на сцэне прафесійнага тэатра на дыялекце падляшскіх беларусаў. Прэм’ера спектакля адбылася ў ліпені 2011 года ў Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў вёсцы Шчыты-Дзенцялова, з якім Іаанна Стэльмашук-Троц дасюль як актрыса і рэжысёрка была звязана. Засноўваючы „Чрэва”, адыходзіць ад супрацоўніцтва з цэнтрам.

— Чрэва на царкоўнаславянскай мове абазначае чэрава, улонне, матку, жывот. Гэтае слова крыху містычнае, як і ўся царкоўнаславянская мова і тэатр. Па сутнасці гэта абазначае ўлонне Багародзіцы, — тлумачыла „Ніве» да прэм’еры новага спектакля.

Першапачаткова інспірацыяй спектакля „ПустаЯ” для Іаанны Стэльмашук-Троц, народжанай у Беластоку, якой бацька паходзіць з апусцелай вёскі Дубляны Міхалоўскай гміны, стала біблейская постаць Фамар з Кнігі Быцця, дзякуючыаднаму з вершаў Тамары Болдак-Яноўскай:

— Мяне зацікавіла гэтая постаць і яе гісторыя барацьбы за ўласныя патрэбы і я расказала аб ёй майму выкладчыку з беластоцкай тэатральнай акадэміі Богдану Глушчаку (ён з’яўляецца мастацкім апекуном спектакля — М. Х.) і гэта якраз ён падказаў мне гэтую драму Лоркі.

„Ерма” — гэта гісторыя маладзіцы, у якой няма дзяцей, і яна адчайна іх хоча. У тэксце драма бясплоддзя аказваецца падставай для разважанняў не толькі аб шчасці, але і аб ролі жанчыны ў грамадстве. Да таго ўзроўню, што аўтары адной з апошніх пастановак у варшаўскім Тэатры Студыя (прэм’ера ў 1997 годзе) распавялі гісторыю маладзіцы, якая, каб нарадзіць дзіця, будзе рабіць усё, перасягне ўсе межы, выкарыстае ўсе сродкі, упісваючы гераіню ў дэбату аб штучным апладненні і становішчы жанчыны ў сям’і, падымаючы пытанні аб неабходнасці вызвалення жанчын ад сацыяльнага ціску навакольнага асяроддзя, якое выступае супраць любых ненатуральных спосабаў зачацця. Іаанна Стэльмашук-Троц і Юліяна Дораш у сваім прадстаўленні далёкія ад такіх асацыяцый. Іаанна Стэльмашук-Троц:

— Калі мы гаворым аб сужонстве, у якім два чалавекі адзін аднаго любяць і паважаюць, але ёсць праблема зацяжарыць — гэта зусім не тэма драмы „Ерма”. Аднак, калі мы падымаем праблему адзінокай жанчыны, якая хоча зацяжарыць „сама” („у прабірцы”) — „Ерма” з’яўляецца адвочна п’есай анты-ін-вітра. Галоўная гераіня самотная ў сужонстве і марыць: „Ох, калі б я магла мець дзіця зусім сама”. Але парыруе ёй постаць „Вясёлай старушкі” (у перакладзе Зофіі Шлеен): „Дзеці нараджаюцца з мужчыны і жанчыны”. „Ерма” гэта п’еса не аб тым, што жанчына павінна „вырашаць аб уласным целе ў кантэксце „**in vitro**”, а хутчэй аб тым, што культурна прышчэпленыя правілы парушаюць вечныя законы прыроды. Драма Лоркі апісвае жорсткі менталітэт традыцыйнай культуры, але і сучасных лозунгаў — дзе няма месца для кахання, на страсць, на зближэнне двух людзей. Дзіця з’яўляецца вынікам апладнення, якога не мае суправаджаць нейкая эмоцыя. Ерма кажа: „Я ніколі не раблю гэтага для забавы”, а Старушка — якая з’яўляецца такой трохі вар’яткай з ускраіны вёскі: „Мужчыны павінны нам падабацца, мужчыны павінны нам косы расплятаць і даваць нам піць ваду з уласных вуснаў”. Вось таму наш спектакль называецца „ПустаЯ”, а не, напрыклад „Ялавая” ці „Бясплодная”, або яшчэ інакш. Таму што наша Ерма — гэта жанчына, якая мае ў сабе пустэчу, таму што не навучылі яе кахаць, таму што не разумее чым можа быць каханне, і, вядома, таму што яе ўлонне не нараджае, не дае плёну. Наша Ерма ў канцы спектакля папракае свайго мужа, што ніколі яе не падтрымлівў, што яго ніколі не было, што ніколі ёю не авалодаў, не вучыў яе кахаць і не ўчыніў жанчынай, а яна ляжала побач яго і хацела быць як „палаючы вулкан”, ды ён быў халодным, як нябожчык.


Юліяна Дораш і Іаанна Стэльмашук-Троц

Дадае:

— У аснове нашага спектакля закладзена драма маладой жанчыны, выхаванай традыцыйна, з пэўнымі прынцыпамі, якія ляжаць у яе вельмі глыбока, дзе цела з’яўляецца грахом, аб якім не згадваецца, гэта з’яўляецца табу. Увесь час, аднак, застаецца з унутраным жаданнем, няздзейсненасцю. Гэтыя сілы прыводзяць да драмы .

Адзначае прытым:

— Не паказваем, што свет дрэнны з-за мужыкоў, але звяртаем увагу на патрэбы і задавальненне жанчын.

Юліяна Дораш, якая іграе галоўную гераіню (яе бацькі родам з Новага Беразова і падбельскіх Кнарыд):

— Гэтае пытанне таксама аб патрэбах жанчын, ці знаходзяцца яны ў гармоніі з целам, душой і духам. У сутыкненні з суровымі норавамі вёскі прымірэнне гэтых трох элементаў вельмі цяжкае, нават на імгненне аказваецца, што немагчымае, таму што правілы былі прышчэплены Ерме такім чынам, што адно з другім не ідуць рука ў руку. У гэтай сувязі ўзнікае драма, таму што Ерма не ведае, як задаволіць свае патрэбы ў гэтай сістэме, у якой яна была выхавана.

Іаанна Стэльмашук-Троц:

— Нельга прытварацца, што няма з’яднаных душы і цела, таму што гэта гвалт на чалавеку. У гэтай згодзе мусіць рэалізаваць усе свае патрэбы.

У драме „ПустаЯ” выкарыстоўваюцца ўрыўкі з „Кнігі цудаў перад іконай Божай Маці ў Старым Корніне здзейсненых”, якая захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве ў Пецярбургу. Яе запісы паказаў свету ў сваёй кнізе некалькі гадоў таму Антон Міраnовіч. Успамінаў у ёй: „На 119 старонках спісаны сведчанні людзей, якія перажылі цудоўныя вылячэнні і іншыя Божыя ласкі. Увод паказанняў часта адбываўся пасля ранейшай споведзі і прыняцця Святога Прычасця. Кніга павінна была быць свайго роду дакументацыяй верагоднасці адкрыццяў Маці Божай”. Адкуль спалучэнне іспанскай драмы на мяжы XIX і XX стагоддзяў з гэтай навакорнінскай „Кнігай цудаў”? — спыталіся мы ў Іаанны Стэльмашук-Троц.

— На першы погляд гэтыя дзве культуры адрозныя, але ў рэчаіснасці гэта не так. Лорка пісаў пра традыцыйную іспанскую вёску. Такія былі і ёсць тут на Падляшшы. Абедзве супольнасці, вёскі зачыненыя, думаюць традыцыйнымі катэгорыямі, традыцыйна разумеюць рэлігію. „Кніга цудаў” паяўляецца ў спектаклі, каб п’еса Лоркі стала яшчэ больш нашай. Ерма ў Лоркі таксама шукае звышнатуральных сіл, як людзі, якія прыбягалі па дапамогу да Божай Маці ў Старым Корніне. У яго п’есе ёсць таксама свайго роду шаптуха, у якой Ерма заказвае малітву і спадзяецца, што і такім чынам можа мець дзіця. Мы хацелі выкарыстаць у спектаклі наш каларыт. Таму і пошук тэкстаў, песень і абрадаў.

Новы пераклад драмы „Ерма” спецыяльна для тэатра „Чрэва” зрабіў Ян Максімюк, родам з падляшскіх Ляхоў, універсальны перакладчык і знаўца падляшскага дыялекту.

„Ерма” ў перакладзе Яна Максімюка выкарыстоўвае, як ён вызначае, падляшскую мову. Гэта не беларуская літаратурная мова. Польскі пераклад, на якім мы першапачаткова абапіраліся — Зофіі Шлеен, быў вельмі паэтычны і трохі „грызся» з нашым бачаннем. У перакладзе Яна Максімюка ўключаны крутыя „тутэйшыя” пагаворкі. Я ведаю, што пры перакладзе кансультаваўся ён з пажылымі жанчынамі „згэтуль”, з сям’ёй. Распытваў, як гаварылася аб цяжарнасці, як называлі бясплодную, як, напрыклад, валацугу і таму ўсе гэтыя словы гучаць са сцэны.

Чаму стваральніцы вырашылі прадставіць такую мову? Іаанна Стэльмашук-Троц:

— А чаму б нам не зрабіць тэатр пасвойму? Мы пазбягаем беларускай літаратурнай мовы, таму што мы хочам трапіць да людзей тут, якія на такой не гавораць. Мы хочам дайсці да хатняй моўнай сапраўднасці.

Юліяна Дораш прызналася пры нагодзе:

— Калісь я беларускім дыялектам не карысталася. Потым высветлілася, што ёсць ува мне такая патрэба, каб на ім размаўляць з бацькамі і цяпер гавару з імі па-свойму.

працяг 11





# Падзенне каменнага ідала

Прайшло больш тысячы гадоў з тае пары, калі князь Уладзімір Святаслaвіч прыняў хрысціянства як дзяржаўную рэлігію і адбылося масавае хрышчэнне кіяўлян. І паляцелі са сваіх пастаментаў каменныя балваны, сімвалізуючыя вялікую змену эпохі. Хто тады мог падумаць, што праз тысячу гадоў каменныя балваны зноў будуць стаяць на хрысціянскіх землях, смела і нахабна паглядаючы зверху ўніз на мітуслівых нашчадкаў тых людзей, якія масава хрысціліся, абліваючыся хуткімі водамі магутнага Дняпра. І прымалі тыя духоўныя каштоўнасці, якія ўжо была прыняла амаль уся старажытная Еўропа.

Бальшавікі, руйнуючы храмы і еўрапейскую культуру, заставілі сваімі каменнымі балванамі шостую частку зямной сушы. З каменных Ленінаў, калі іх звезці ў адно месца, атрымаўся б даволі вялікі горад. Але Леніны не хацелі стаяць у адным месцы. Яны распаўзліся па ўсіх гарадах, занятых камуністамі, каб сімвалізаваць адмову прыгнечаных імі народаў ад еўрапейскіх каштоўнасцей і цывілізаванага шляху. Яны сталі на галоўных плошчах, то ўпаўнена паказваючы рукой у нікуды, то пільна сачылі за сваімі прыгоннымі.

І вось нарэшце, у Кіеве, падчас правядзення Еўрамайдана, адзін з такіх балваноў быў скінуты са сваіх крывавых падмуркаў. Ён ганебна паляцеў мармуравай галавой уніз і быў знішчаны, за людскія слёзы, за кроў і пакуты, за галадамор, за крывавую разню і азвярэлае разбурэнне храмаў, за паламаныя лёсы і знішчаныя мары, за стогадовую адарванасць Украіны ад Еўропы... Ён разбіўся, сімвалізуючы чарговую вялікую змену эпохі, якая вызначаецца жаданнем украінцаў вярнуцца ў сям'ю еўрапейскіх народаў.

Аказваецца, гэты помнік даўно ўжо прапаноўвалі прыбраць з людскіх вачэй. І нават нейкія адпаведныя рашэнні былі прыняты. Але духоўныя нашчадкі крывавых катаў зрабілі ўсё, каб выява іхважака засталася. Не хочуць яны па-добраму, па-чэснаму, па закону. Пляваць ім на закон, на чэснасць і дабрыню. Ну дык кіеўскі Ленін быў скінуты адзіным аргументам, які яны разумеюць. Сілай.

Але ж адразу па факце знішчэння помніка Леніну была ўзбуджаная крымінальная справа. Вось што хвалюе ўладу! Не пабітыя азвярэлымі беркутаўцамі студэнты, а каменны балван, сімвал іх улады і ўсёдазволенасці. Вось іх сапраўднае аблічча, якое зараз стала на аднаго Леніна меншым.

Духоўныя нашчадкі камуністычных дзеячаў надаюць надзвычай вялікую ўвагу свайму сімвалізму. Нездарма яны ўсімі сіламі стараюцца захаваць музыку камуністычных гімнаў, як у Расіі і Беларусі, пакідаюць камуністычныя зоркі на вопратцы вайскоўцаў, чапляюцца за кожны помнік Леніну... Калісьці і ў Гародні, на прапанову грамадзян прыбраць Леніна з галоўнай плошчы горада, разгарнулі цэлую дыскусію. І накінуўшы на твары маску сур'ёзнасці і заклапочанасці даказвалі, што без выявы камуністычнага важака сапсуецца ўвесь архітэктурны ансамбль цэнтра горада. І яшчэ сцвярджалі, што гэта ж наша гісторыя! Пры гэтым у горадзе няма помніка, прыкладам, ні Кастусю Каліноўскаму, ні Максіму Багдановічу. Нібыта гэтыя дзеячы не нашая гісторыя. А ў нас адна толькі гісторыя — Ленін.

Ну вось хоць украінцы даходліва паказалі, што сапраўдная гісторыя, гэта дэмантаж Леніна, а не яго ўслаўленне. Што ў іх была і ёсць гісторыя змагання за праўду, а не толькі гісторыя душэння праўды. І што прыйдзе час, калі паскідаюць усіх Ленінаў. І нават вынесуць з маскоўскага маўзалея ды пахаваюць як чалавека, адчыніўшы і для Расіі шлях у Еўропу.

Ну а пакуль што Расія, са сваім Леніным, не тое што сама ісці, але нават Украіну не хоча ў Еўропу пускаць. І пільна сочыць за кожным удыхам Майдана. І трасецца, калі падае помнік Леніну. І цешыцца, калі чуе, што многія апазіцыйныя ўкраінскія лідары асуджаюць знос крывавага сімвала антыўкраінскай улады. Бо разумее з гэтага факта, што не ўсе тыя лідары гатовыя ісці да канца. І абавязкова ўлічыць гэта, калі будзе рыхтаваць для Януковіча план разгону Майдана.

Але як бы там далей ні разгортваліся падзеі, усяму свету ўжо зразумела, што ўкраінцы выбіраюць Еўропу. І што рана ці позна, яны там будуць. Лепш, канешне, рана.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Лесарубы і шахцёры

Шахцёраў у Белавежскай пушчы нават днём з агнём не знойдзеш. Зрэшты, толькі дурань іх у лесе шукаў бы. Затое лесарубаў тут багацце. Аж жаль сціскае за горла, што яны не могуць сабрацца ў кучку. Прафсаюзную кучку. Таму што ідэю прафсаюзаў нельга недаацэньваць. Менавіта дзякуючы ёй мы маем сёння васьмігадзінны дзень працы, платныя водпускі і гэтак званую ўстойлівую калектыўную сістэму ўтрымліваючую ў адноснай раўнавазе інтарэсы так работнікаў, як і працадаўцаў. Звязана гэта з пэўным этасам, а таксама культурай працы. Так што прафсаюзная ідэя, як кожная ідэя, на практыцы хісткая. Лёгка нахіляецца на бакі. Перавагі затым часовыя. Але толькі для некаторых. Калі астатнія зашмат трацяць, у доўгатэрміновай перспектыве ўсё страцяць. Гэтак бывае ў выпадку лясных рабочых. Не абараняе іх моцны прафсаюз, хоць іх праца параўнальная з шахцёрамі, якія працуюць пад зямлёй у шахтах. Таму ўцякаюць з лесу. Іх месца займаюць некваліфікаваныя, часовыя рабочыя, часта з нулявым этасам і культурай працы. Як гэта ўплывае на якасць польскіх лясоў, няма неабходнасці даказваць. Прыкладам іншай крайнасці з'яўляецца горназдабыўная прамысловасць. У Ястшэмбскай вуглёвай суполцы нядаўна быў заснаваны яшчэ адзін прафсаюз — ужо 39 у гэтым дзяржаўным молаху, налічваючым прыкладна 22,3 тысячы чалавек. Колькі працаўнікоў падало заяву ў новы прафсаюз, я не ведаю. Мінімум пятнаццаць, але гэта не значыць, што любы з іх не можа быць адначасова членам іншага прафсаюза. Такім чынам да прафсаюзнах арганізацый, якія абраслі ястшэмбскае прадпрыемства быццам пёры качыны азадак, належыць 120% працаўнікоў — як адміністрацыйных, так і шахцёраў пад зямлёй. Гэтых першых, як ацэньваецца, на некалькіх тысяч зашмат. На эканамічных прычынах трэба было б іх вызваліць, але шахцёрскія прафсаюзы на гэта нязгодныя. Таму варта належаць па меншай меры да аднаго з іх. А яшчэ лепш, каб да двух ці трох. Бо звальненні проста вісяць у паветры.

Большасць шахт у Польшчы нерэнтабельных, абцяжараных адміністрацыйным навісам і тэхналагічнай адсталасцю ды дарагімі шахцёрскімі прывілеямі. Такім чынам, польскі вугаль занадта дарагі ў параўнані з імпартаваным з Украіны, Кітая і ЗША. Штогод яго звозіцца прыкладна да 10 млн. тон. Столькі ж вугалю дзяруць айчынныя шахцёры. Тым не менш, значнай часткі іх здабычы няма каму ўцісНуць. Гэта мільёны тон нерэалізаванага вугалю, які назапашваецца на прышахтных тэрыконах. Тым не менш іх вытворчасць не спыняецца. Праўду кажучы, паўмільённая армія шахцёраў атрымлівае дзякуючы гэтаму шматтысячны заробак, але з пункту гледжання грамадскай карыснасці ўсе іх намаганні сыходзяць на бескарысныя адвалы... шматмільярднай вартасці. На жаль, ніякі ўрад не зможа да гэтага часу выраШыць сізіфаву параноЮ. Або не хоча. Гэта не дзіўна, бо шахцёрская братва разам з іх сямейнікамі і сваякамі з'яўляецца магутным 3,5-мільённым выбарчым электаратам. Які ўрад, якая палітычная партыя адважыцца не ладзіць з імі?

На мой нос работнікаў ляснога сектара ў Польшчы ў нас не менш за шахцёраў. Яны таксама з'яўляюцца магутным электаратам. Але ніхто з імі не лічыцца. Яны не маюць падтрымкі ў прафсаюзах, якія ўзніклі ў надлясніцтвах. Большасцю іх членаў з'яўляюцца ляснічыя і сакратаркі. Калі належаць да іх дрывасекі, то на пенсіі або ахопленыя рэнтай: у большай часткі ад вібрацыйнага захворвання, дэгенерацыі пазваночніка і ўскладненняў пасля барэліёзу. Кіруючая польскімі лясамі суполка «Дзяржаўныя лясы» з'яўляецца адной з самых багатых у Польшчы. Тым не менш, яна не клапоціцца аб лесарубах. Прымаюць іх на працу юрыдычныя асобы, якія выйгралі тэндэр на работы лясной гаспадаркі — найбольш часта на так званы «кантракт на абслугоўванне» (umowa-zlecenie). Не заступіцца за імі прафсаюз леснікоў і сакратарак, які бліжэй па сваёй прыродзе да працадаўцаў, чым да гаручых у лесе лесарубаў. З іншага боку, ці яны не ведаюць, што ў кучы сіла? Блін, можа і не ведаюць.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Ліквідатар клуба СЛД

„Са шкадаваннем паведамляю, што з сённяшняга дня я вымушаны прыпыніць сваё членства ў Клубе радных СЛД Гарадской рады Беластока па прычыне працягваючайся за апошнія некалькі месяцаў кампаніі паклёпу на грамадскім форуме, у прыватнасці ў інтэрнэце, на маё добрае імя групай актывістаў Саюза дэмакратычных левых сіл (СЛД), верагодна, пры згодзе, і, магчыма нават з інспірацыі Кшыштафа Біля-Ярузельскага, старшыні Ваяводскай рады СЛД у Падляшскім ваяводстве. Я быў таксама маргіналізаваны як радны — член Клуба Саюза дэмакратычных левых сіл, што праяўлялася ў незапрашванні на прэс-канферэнцыі або пасяджэнні статутных органаў СЛД па бягучых праблемах горада Беластока. Праігнаравана было кіраўніцтвам падляшскага СЛД запрашэнне Клуба радных СЛД Гарадской рады горада Беластока на сустрэчу 12 лістапада 2012 г. з мэтай высвятлення ўсіх спрэчных пытанняў і наладжання супрацоўніцтва да канца гэтага склікання. У гэтай сітуацыі прыпыненне членства ў клубе з'яўляецца абгрунтаваным, а нават неабходным» . Ад зачытання гэтай заявы пачаў апошнюю сесію Гарадской рады Беластока яе старшыня Уладзімеж Кусак. Зрабіў гэта менавіта ён, хоць у зале быў прысутны аўтар заявы Мікалай Міpановіч, радны родам з праваслаўнага, беларускага асяроддзя. Адразу пасля таго старшыня Кусак зачытаў другую ягоную заяву, таксама ў прысутнасці раднага Міpановіча. Тут радны, без сарамлівасці, поўнасцю праявіў сябе: „Я атрымліваю ўсё больш і больш сігналаў, што некаторыя бачныя дзеячы СЛД намерваюцца ў выбарчай кампаніі выкарыстаць з мэтай дыскрэдытацыі маёй кандыдатуры на раднага запіс маёй прыватнай гутаркі ў сакавіку 2013 года з радным ад Форуму меншасцей Падляшша (ФМП з'яўляецца часткай клуба ГП — М. Х.) Сцяпанам Нікіцюком адносна магчымага пераходу ў клуб Грамадзянскай платформы".

Справа ва ўцечцы ў «Выбарчую газету», якая апублікавала змест запісу размовы, у ходзе якой Сцяпан Нікіцюк з Форуму меншасцей Падляшша прапануе Мікалаю Міpановічу змяніць колер клуба ўзамен за працу і пасаду віцэ-старшыні адной з камісій Гарадской рады. Зараз, абвінавачаны ва ўцечцы, прыпыняючы членства ў клубе СЛД радны сказаў голасам старшыні Гарадской рады: „Вось катэгарычна, канчаткова і незваротна заяўляю, што ніколі не было маім намерам апублікаванне зместу гэтай размовы. Запіс быў прадстаўлены толькі калегам з Клуба радных СЛД. Неасцярожна, што я зразумеў запозна, я пагадзіўся падзяліцца гэтым запісам, але толькі да яго ведама, са старшынёй падляшскага СЛД Кшыштафам Білем-Ярузельскім. З гэтай крыніцы, без майго ведама і згоды, наступіла ўцечка ў «Выбарчую газету» І толькі гэты чалавек і яго памагатыя нясуць прамую адказнасць за запіс і наступствы гэтага нелаяльнага ўчынку, што балюча паўплывала на мяне асабіста".

Радны Міpановіч за „прычыненне шкоды" з-за гэтага „ганебнага ўчынку" — далей вуснамі старшыні Кусака — папрасіў прабачэння ва ўспомненых у запісанай размове віцэ-старшыні Анджэя Мейера, старшыні клуба ГП у ГР Збігнева Нікітаровіча і Сцяпана Нікіцюка. Каментуючы ў СМІ змест гэтых заяў, Кшыштаф Біль-Ярузельскі нагадаў, што Мікалай Міpановіч ніколі не быў членам СЛД:

— І , нарэшце, зрабіў эфектыўнае рашэнне. Перастане дыскрэдытаваць усіх нас. Мікалай Міpановіч адчувае мінаючы час да выбараў. Ведаючы, што не мае ніякіх шанц, каб стартаваць у іх са спіска СЛД, шукае іншае месца. Гэта непрыемнае, неэтычнае і нягоднае. Ён асабіста запісаў карупцыйную прапанову, абнародаваў яе, гаварыўшы пра запіс неабмежаванай колькасці людзей.

Для дакладнасці: радны Нікіцюк зараз пасля публікацыі ў «Выбарчай газеце» даў сваю заяву, у якой ён папрасіў прабачэння ў асоб, пералічаных — як адзначыў — у прыватнай і нязмушанай гутарцы. Адзначыў тады: «У мяне не было паўнамоцтваў весці размовы з радным Міpановічам і прапанаваць любыя абяцанні. Я размаўляў з радным Міpановічам толькі таму, што ад нейкага часу ён выказваў жаданне далучыцца да Форуму меншасцей Падляшша і неаднаразова мяне ў гэтай справе зачапаў. Тлумачыў, што не пагаджаецца з часткай праграмы СЛД, асабліва ў светапоглядных пытаннях і хацеў далучыцца да Форуму меншасцей Падляшша».

Да нядаўняга часу клуб радных СЛД у беластоцкай радзе налічваў чатырох (тэарэтычна апазіцыйных) радных. Пасля галасавання насуперак свайму клубу ў справе зацвярджэння справаздачы з выканання бюджэту за 2012 год, сваё членства ў яго складзе прыпыніў Веслаў Кабылінскі. Згодна са статутам ГР клуб мусіць налічваць як мінімум трох радных. Такім чынам Мікалай Міpановіч, прыпыняючы сваё членства ў клубе СЛД, можа ўвайсці ў гісторыю беластоцкага самаўрада гэтага тэрміну як ліквідатар клуба партыі, якая ўсё больш і больш знікае з палітычнага пейзажу падляшскай сталіцы.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**


Фота Міры ЛУКШЫ

Яўген ВАПА

## Падляшскі вандраўнік ч. 2

**(трыпціх)**

*нашаму тату*

Я не хачу
як тады у дванаццаць гадоў
над уласнаручна капанай магілай
слухаць працяглае тра-та-та-та
з нямецкага аўтамата

Я не хачу
такіх партызанаў
начных шкурадзёраў
што ў цяні пушчанскіх хвояў
прысвойвалі сабе званні герояў

Я не хачу
франтавога гуку разрыўных гранатаў
і свісту снарадаў з гарматаў
забраных у Сібір і Нямеччыну маладзёнаў
прапаўшых без следу ў чужых загонах

Я не хачу
каб за быццё толькі беларускім «кацапам»
дрыжаць ад страху і пераляку
сярод спаленых ушчэнт
родных бацькоўскіх хатаў

Я не хачу
дыхаць цяжка-млявым пахам
з пагарэлых кароваў і ягнятак
дзе ўдасца вывесці толькі каня
з гэтага мора агня

Я не хачу
прымушана глядзець
на скручаных дротам людзей
аблепленых пяском, мухамі і кроўю
пастраляных з ненавісцю у вачах любоўю

Я не хачу
болю разрыванага сэрца
адчайнага ляманту, маладзіц-удавіц
плачу дзяцей
адарваных толькі што ад матчыных грудзей

Я не хачу
з жабрачай торбачкай
блукаць галодным па суседніх вёсках
за акраец хлеба і скрылік сала
са слязьмі ў горле і вачах дзякаваць прыпала

Я не хацеў
каб другія смяяліся над намі
бо бедныя, нявучаныя — сынкі, пра тое знайце
мы з мамай стараліся як маглі
бы добрымі людзьмі
ў свет вы ў згодзе пайшлі
і такімі жыццё пражылі.

## Падляшскія ўнукі

Бабуліна кашуля і дзедаў кажух
вытканая капа, маляваны сундук
белыя палотны, крыжыкаў узор
на гарышчах і ў вогнішчах
дух народа затух

І бабуля з дзядулем
хоць люблю вельмі іх
далі згоду на тое
што не ведаць, хто кім
Так пра шчасце ўсіх дбалі
і паслалі ў свет
родну мову і слова
дакаралі мы ўшчэнт

Бабуліна кашуля і дзедаў кажух
вытканая капа, маляваны сундук
белыя палотны, крыжыкаў узор
на гарышчах і ў вогнішчах
дух народа затух

Вочы неяк слязяцца
словы ледзьве чуваць
на дзедавым гарышчы
пацукі йграюць ў більярд
Не пракляты ты лёсам
а самотай сваёй
адарваны ад родных
у ваўкалакі папёр

Бабуліна кашуля і дзедаў кажух
вытканая капа, маляваны сундук
белыя палотны, крыжыкаў узор
на гарышчах і ў вогнішчах
дух народа затух

Царкоўныя спевы і касцельны арган
не моліцца на роднай ніводзін святар
паховіны і п’янка — нам развеюць тугу
лес крыжоў прыбывае — прыйшоў час на карчму
І так з песняй мы любім
славіць кожны наш крок
хаўтуры ўжо спраўлены
паніхіда праз год

Бабуліна кашуля і дзедаў кажух
вытканая капа, маляваны сундук
белыя палотны, крыжыкаў узор
на гарышчах і ў вогнішчах
дух народа затух

* * *

На мяжы
мы жывем і дрыжым
тут патруляць усе
і свае і чужыя
Каб адвесці душу
ўзносім толькі ахвярныя крыжы
ці ж так нам паміраць
мае людзі лясныя?

**2013**

## Краты
або
## „Краткая” гісторыя дзвюх прадпрымальна-апалітычных гарадзенскіх сем’яў

Ці то бедны, ці багаты
Хоча ў хаце ставіць краты,
Каб з сям’ёю і сябрамі
Вечаркамі і дзянькамі
За гарбатай, чаркай, скваркай
Бухаць, квасіць і па ранках.
Але ж колькі трэ заботы,
Каб прыдбаць да хаты дроты.
Маня, Ваня, Антак, Чэсь,
Разабралі й „Мерседэс”,
Што ў двары стаяў без фараў
Прызабыты гаспадарам.
Трэба ж пілiць, рэзаць, цёгаць
І суседзяў не спалохаць,
Міліцыянтаў не баяцца,
Стукачам жа ўсміхацца.
Усё для славы, для прэстыжу,
То й жалеза перакіну.
А за гэтай беганінай,
Беларускай цяганінай
Часам нервы не стрывалі
І ўлады папракалі
То за чэргі за валютай,
За развалены там абутак,
За капусту, што не кісне
І смярдзіць калі прыціснеш,
А то бульба па даляры,
Ў Польшчу з’ездзіць толькі марыць.
Пакуль краты ўсталявалі
Пры акне аб тым брахалі.
Нехта добра іх заслухаў,
Каму трэба і застукаў.
Не мінулі й дзве гадзіны
Як прыперлі ў гасціну,
Моцна ў дзверы застучылі,
Каб ім хутка мы адкрылі.
А нам сполах і праклён,
Давай, збежым на балкон.
Калі беглі, то спазналі:
У пастку з кратаў мы папалі.
Дзе ж гарбата, чарка, скварка,
Ужо вядуць нас у кайданках,
Пратакол на ўсіх складаюць,
Апазіцыяй абзываюць.
О мой Божа! Дрэнна справа.
Вось і скончылась забава!
Забяруць у нас жа краты,
Штраф не сплацім і на раты.
Трэба к нарам нам звыкацца
З-за крат ў неба ўглядацца.

**2011**

## Куе вэснова зазуля

*Віктару Стахвюку*

Ой куе куе вэснова зазуля в лісі
А наш Вітюленько спішыт до Марысі

Ой нэ куй нэ куй зазулё так моцнэнько
Бо ужэ з міленькою ліжыт Вітюленько

Зэмля зворухнулась зоры загляділісь
Воны молодэнькі гожэ так любілісь

Гожэ так любілісь у шчасці шэпталі
Росою туманом сэбэ обмывалі

Сэбэ обмывалі доленьку гадалі
Над бэрэжком Нарвы хвалі ім співалі

А колі поднялісь і вэрнулісь з ранку
Злыя батюленькі выгналі коханкув

Нарва зажурылась слёзы проливала
Там за Тросьцяніцёй рэчунька всыхала

Нэ всыхай рэчунько будь ты нам мілая
Мы на твоіх хвалях плывэм до Дуная

Така наша доля по світі блудіті
Коб за двісты рочкув зноў над Нарвой жыті

Нарва усміхнулась в бэрэжкі вступіла
На місці кохання крыніцёю біла

**2006**

## Беларускія спевы ў Махнатым

У суботу 23 лістапада ў Махнатым пад Гайнаўкай адбылася сяброўская сустрэча трох беларускіх мастацкіх калектываў. На сцэне мясцовай святліцы выступілі з песнямі „Жаваранкі" з Махнатага, „Нараўчанкі" з Нараўкі і капэла „Хутар" з Гарадка. Паслухаць родныя песні прыйшло шмат жыхароў Махнатага і Старога Беразова. Сярод прысутных былі войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч і хросны бацька „Жаваранкаў" Мікалай Яноўскі — вядомы на Гайнаўшчыне самаўрадавы дзеяч. Больш за дзве гадзіны цягнуўся песенны канцэрт, а гледачы сардэчнымі воплескамі прымалі спевакоў і музыкантаў. Гарадоцкі „Хутар" — гэта цэлая капэла, у якой апрача спевакоў Карповічаў іграюць два акардэоны, дзве гітары і скрыпка. У чароўных руках настаўніка Францішка Апановіча скрыпка плакала і смяялася. Пасля выступленняў „Жаваранкі" запрасілі гасцей з Нараўкі і Гарадка на сяброўскую вячэру. За багата застаўленымі сталамі былі размовы, песні і танцы. Ігралі гарадоцкія музыканты, іграў Пятро Скепка, Анна Карэтка і іграў спявак і акардэаніст Сярожа з Махнатага.

Госці з Нараўкі праспявалі ўласную песню аб Беластоцкай зямлі на словы члена мясцовага калектыву. Увесь вечар прайшоў у цёплай, сардэчнай атмасферы.

Госці з Нараўкі і Гарадка дзякавалі „Жаваранкам" за багаты пачастунак, а спявак і солтыс вёскі Аляксей Герасімюк частаваў ад'язджаючых „аглаблёвай" чаркай.

Дзякуем, „Жаваранкі" з Махнатага!

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Больш стаянак для аўтамабіляў

Сёлета ў Беластоку пабудавалі каля 300 новых стаянак для аўтамабіляў. Шкада, што няшмат іх прыбыло ў цэнтры горада. Але ўсё ж цяпер ёсць іх больш на вуліцы Ліпавай, Вашынгтона, Новы свят і Бялуўны.

Найбольш стаянак прыбыло на вольных пасёлкавых пляцоўках, між іншым, пры вуліцы В. Жымоўскага і вуліцы Экалагічнай (жыллёвы пасёлак Новае Места), пры вуліцы Свентакшыскай (на Антанюку), пры вуліцы Лагоднай (на пасёлку Бацечкі) і пры вуліцы Вясковай (на пасёлку Бэма).

І зараз ля жылых блокаў на вышэйзгаданых жыллёвых пасёлках рэдка хто з вадзіцеляў аставіць свой аўтамабіль на газоне або на дарожцы, прызначанай для праезду пажарнай машыны. А дагэтуль з-за недахопу вольнага месца для перш-наперш прыватных самаходаў гэтак часта здаралася. На нішто здаліся інтэрвенцыі гарадской стражы, зноў абнаўляліся „дзікія" стаянкі.

**(яц)**




# Курашава на старой фатаграфіі

**Юры Плева з Курашава — адзін з гісторыкаў-аматараў, які збірае дакументы, здымкі і матэрыялы аб мінулым роднай вёскі і наваколля. Апошнім часам адсканаваў ён фатаграфіі, якія захаваліся ў сямейных архівах і разам з Гмінным асяродкам культуры ў Чыжах наладзіў выставу «Курашава на старой фатаграфіі», урачыстае адкрыццё якой адбылося 24 лістапада ў вясковай святліцы. На экспазіцыі паказваюцца копіі дакументаў і каля 700 фатаграфій, выбраных са шматтысячнай калекцыі Юрыя Плевы. На здымках адлюстраваны вясковае жыццё, сямейныя мерапрыемствы, дзейнасць школы, увекавечаны хлопцы у вайсковых мундзірах, сяляне ў час палявых работ, мясцовая архітэктура.**

Пасля нядзельнай літургіі ў святліцу прыбылі прыхаджане з айцом Пётрам Каменскім. Прыйшлі астатнія жыхары вёскі, прыехалі войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк і дырэктар Гміннага асяродка культуры Юры Якімюк. Урачыстасць адкрыцця фотавыставы падрыхтавалі працаўнікі ГАК. Дапамагала ім кіраўнік «Незабудак» Ніна Грыгарук, якая апякуецца клубам і выставай.

— Калі я заходзіў да найстарэйшых жыхароў вёскі, то яны часта гаварылі мне, што ў іх няма старых фатаграфій, што найстарэйшыя гэта здымкі з іх маладасці — 50-60-гадовай даўнасці. Аднак знаходзіліся намнога старэйшыя фатаграфіі — з міжваеннага перыяду, а нават стогадовай даўнасці, — сказаў яшчэ да адкрыцця экспазіцыі Юры Плева, які вызе паміж родным Курашавам і Беластокам, дзе займаецца прафесійна. — Многа цікавай інфармацыі знайшоў я ў царкоўных метрыках у Чыжоўскім і Курашаўскім прыходах, дзе, між іншым, запісаныя прычыны смерці. Ёсць у мяне копія карты двухсотгадовай даўнасці, на якой памечаны Трывежскі фальварак, па якім няма ўжо і следу.



Выстаўку адкрылі войт Юры Васілюк, дырэктар ГАК Юры Якімюк (справа) і мясцовы гісторык Юры Плева (пасярэдзіне). Злева: айцец Пётр Каменскі

Мясцовай гісторыяй Юры Плева цікавіцца здаўна.

— Гісторыя Курашава і наваколля доўгая і цікавая. Каля Курашава знаходзяцца паганскія курганы з крэмаванымі парэшткамі з XI стагоддзя. Мяркуецца, што людзі жывуць на гэтай тэрыторыі ўжо тысячу гадоў. Керамічныя знаходкі тычацца перыяду Кіеўскай Русі. Першыя пісьмовыя звесткі аб Курашаве датаваны XVI стагоддзем. Пазнейшыя звесткі інфармуюць, між іншым, аб скарачэнні ліку насельніцтва вёскі больш чым напалову ў выніку ваенных дзеянняў, хвароб і бежанства падчас шведскага нашэсця. З часам вёска адбудоўвалася і колькасць жыхароў, асабліва ў XIX стагоддзі, хутка павялічвалася. Яшчэ ў царскі перыяд, бо ў 1905 годзе, у Курашаве жыло больш за тысячу чалавек. Пазней многія не вярнуліся з бежанства 1915 года, паўміралі ў час першай сусветнай вайны. У 1928 годзе жыло ў Курашаве 649 чалавек. Зараз у Курашаве прапісаных толькі каля 300 асоб, але частка з іх жыве ў гарадах. Можна сказаць, што за апошнія стагоддзе колькасць насельніцтва скарацілася больш чым на 70 працэнтаў, — гаварыў Юры Плева.

Выстаўку ўрачыста адкрылі войт Юры Васілюк, дырэктар ГАК Юры Якімюк і Юры Плева. Імя Юры ў Чыжоўскай гміне даволі частае і гэта невыпадковая з'ява, бо другім прыхадскім святам у Чыжоўскім прыходзе з'яўляецца свяктаванне ў гонар велікамучаніка Юрыя Пераможца, да якога земляробы моляцца, між іншым, аб добры ўраджай. З пашаны да святога бацькі ў Чыжах і наваколлі часта сваіх сынкоў называлі імем Юры.

— Я вельмі рады, што адкрываю выстаўку фатаграфій у родным Курашаве. Юры Плева сабраў вельмі многа здымкаў, а таксама падабраў цікавы гістарычны матэрыял. Думаю, што добра было б выдаць фотаальбом з гістарычнымі матэрыяламі, — сказаў войт Юры Васілюк і паведаміў аб планаванай манаграфіі Чыжоўскай гміны. — Тут жывуць беларусы. Здымкі на выставе сведчаць аб нашай гісторыі. Выстава блізкая ў эмацыйным плане, бо можна на ёй знайсці сваіх блізкіх, распазнаць сябе.

— Кожны здымак нешта паказвае і важны ён не толькі для сямейнікаў. На найстарэйшых фатаграфіях бачым воблік колішняга сяла. Можна ўбачыць як будавалі ў Курашаве царкву. Захаваўся здымак курашаўскіх пажарнікаў і мужчын, якія ў час другой сусветнай вайны ахоўвалі ад партызан чыгунку каля Навасадаў, — тлумачыў Юры Плева.

Курашава вядомае цяпер таксама з-за таго, што ў міжваенны перыяд тут жыў і ў царкве служыў іераманах Серафім (у міры Раман Шахмуць) — кананізаваны ў 1999 годзе Сінодам Беларускай Праваслаўнай Царквы прападобнамучанік Серафім Жыровіцкі. Яго здымак, разам з жыхарамі вёскі, знаходзіцца на выставе. Прыехаў ён сюды з Жыровіцкага мужчынскага манастыра. Закончыўшы місію ў Курашаве, адбудоўваў у час другой сусветнай вайны праваслаўнае жыццё на акупаванай немцамі Беларусі. За гэта пасля вызвалення быў арыштаваны і закатаваны ў савецкім лагеры.

— Святы Серафім Жыровіцкі прыехаў, каб умацоўваць людзей у праваслаўі. Нашыя жыхары запамяталі яго як добрага свяшчэнніка, які апякаваўся імі. Зараз мы ведаем, што св. Серафім быў арыштаваны савецкімі ўладамі. Існуюць розныя версіі таго, як ён загінуў, — заявіў Юры Плева.

Дыскусію выклікаў здымак з курашаўскімі пажарнікамі.

— Да перадваеннай камасацыі зямлі здаралася, што на адным панадворку стаяла па некалькі хат крытых саломай, бо жыло ў нас многа людзей. Калі ўспыхаў пажар, агонь хутка перакідваўся з хаты на хату і наносіў вялікае знішчэнне. У Курашаве была пажарная каманда. Памятаю, што ў пажарнікаў была бочка, ручная помпа і іншыя прылады, якія вазілі яны на возе. Нашыя хлопцы тушылі імі пажары, — успамінаў Васіль Нікалаюк.

— Выстаўка — цікавая і добра, што так многа фатаграфій сабралі ў адным месцы, — заявіў Сяргей Каліноўскі.

Еўдакія Закройшчык і Марыя Скепка пахвалілі аўтара выстаўкі за разнароднасць сабраных ім здымкаў.

— Юры зрабіў добрую справу, сабраўшы такое мноства фатаграфій. Яны цікавыя нашым людзям, гэта ж нашая гісторыя, — сказала Ніна Грыгарук і дабавіла, што «Незабудкі», якіх дзейнасцю яна кіруе, толькі прыпынілі сваю актыўнасць, бо дзве асобы з-за жалобы не могуць спяваць. Была рада, што нядаўна закончыўся рамонт той часткі святліцы, у якой раней знаходзіўся магазін.

— Мы закончылі мадэрнізацыю клуба, адрамантавалі залу, у якой наладжана выстава фатаграфій. Прадбачваем, што ў гэтым памяшканні штодзень будуць спатыкацца жыхары вёскі, — сказаў войт Юры Васілюк.

На Гайнаўшчыне Курашава славіцца вырошчваннем агародніны і яблык. Вёска таксама мяняе свой выгляд. Едучы ў святліцу, бачыў я прыгожа адноўленыя хаты і дамы ў ходзе мадэрнізацыі .

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Трансгранічнае супрацоўніцтва

29 кастрычніка 2013 года была падпісана дамова аб датацыі на рэалізацыю праекта „Паляпшэнне трансгранічнай сістэмы аховы асяроддзя гмін Чаромха і Высокае шляхам разбудовы сантэхнічнай інфраструктуры”. Праект будзе рэалізаваны па сродкі „Еўрасаюзнага інструмента суседства і партнёрства” ў рамках праграмы „Трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча — Беларусь — Украіна 2007-2013”. Чаромхаўская гміна рэалізуе праект у супрацоўніцтве з Аб’яднаннем самаўрадаў Еўрарэгіёна „Белавежская пушча” і з партнёрамі з Беларусі — Высокаўскім гарадскім выканаўчым камітэтам і Камунальным унітарным многагаліновым вытворчым прадпрыемствам жыллёва-камунальнай гаспадаркі „Камянецкае ЖКГ”.



Старшыня Высокаўскага гарвыканкама Леанід Бірук



Справа налева: Сяргей Грыб, Іна Марчук, Мікалай Шклянік, Юры Шыкула, падпалкоўнік Канстанцін Герман і Ян Хомчук



Юры Сірак і Мікалай Шклянік



Партнёры на перагаворах. Злева: Ірыней Леанюк, справа: Сяргей Грыб, ззаду пасярэдзіне: Мікалай Шклянік

28 лістапада 2013 года ў Чаромсе адбылася канферэнцыя, прысвечаная азнаямленню з еўрасаюзным праектам. Прынялі ў ёй удзел партнёры з Беларусі: старшыня Высокаўскага гарвыканкама Леанід Бірук, дырэктар культурнага цэнтра г. Высокае Людміла Дудар, кіраўнік КУМВПЖКГ „Высокаўскае ЖКГ” — дырэктар Аляксандр Рагальчук, намеснік дырэктара Фёдар Бондар, галоўны інжынер Мікола Шклянік, намеснік галоўнага бухгалтара Іна Марчук, начальнік Водна-каналізацыйнай гаспадаркі Андрэй Гендзель, інжынер Сяргей Грыб і начальнік Дарожнага рамонтна-будаўнічага ўпраўлення № 137 Юры Мураўскі.

З польскага боку ўдзельнічалі войт Юры Шыкула, дырэктар бюро Аб’яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна „Белавежская пушча” Ян Хомчук, старшыня Рады Гайнаўскага павета Мікалай Міхалюк, бургамістр Гайнаўкі Юры Сірак, кіраўнікі чаромхаўскіх устаноў і гмінных службовых адзінак, радныя, солтысы ды шматлікае кола жыхароў пасёлка.

— У 1948 годзе мяжа падзяліла насельніцтва Польшчы і Беларусі, — гаварыў войт Юры Шыкула. — Але натура не прызнае мяжы. Рэкі, звярына карыстаюцца сваімі правіламі...

— Праект „Паляпшэнне трансгранічнай сістэмы аховы асяроддзя...”, — адзначыў у час прэзентацыі праекта намеснік войта Ірыней Леанюк, — будзе рэалізаваны ў двух турах. У першым будуць весціся дарожныя і земляныя работы, затым пачнецца пракладка каналізацыйных труб і будова помпавых станцый. На тэрыторы Чаромхаўскай гміны станцый узнікне тры, а ў горадзе Высокае — сем. Другі тур будзе зводзіцца да арганізавання мерапрыемстваў у сферы культурна-гаспадарчай дзейнасці, ладжання добрасуседскіх сувязей з удзелам лакальнай грамадскасці з польскага і беларускага бакоў. Такія дзеянні паўплываюць на замацаванне трансгранічнага супрацоўніцтва ў розных галінах. Прадугледжваецца арганізаванне дзвюх канферэнцый: адкрываючай праект у Чаромсе і завяршаючай — на беларускім баку. Тэрмін рэалізацыі праекта — два гады, да лістапада 2015 г.

Асноўнай мэтай праекта з’яўляецца ахова асяроддзя на прыгранічнай тэрыторыі, асабліва ў буфернай зоне Белавежскага нацыянальнага парку.

Агульная вартасць праекта — 3,8 млн. еўра, з якіх 3,5 млн. еўра складаюць еўрасаюзныя датацыі (90% вартасці ўсяго праекта).

У выніку рэалізацыі праекта Чаромха атрымае 8,2 км каналізацыйнай сеткі, а горад Высокае — 17,5 км. Да каналізацыйнай сеткі падключыцца 551 жыхар Чаромхоўскай гміны і 2500 жыхароў Высокага. Палепшацца сацыяльна-бытавыя ўмовы жыцця насельніцтва ў прыгранічных рэгіёнах і такім чынам абмяжуецца праблема „маргіналізацыі” сельскай тэрыторыі па абодвух баках мяжы. Новазбудаваная каналізацыйнай інфраструктурай пакарыстаюцца не толькі жыхары прыгранічных населеных пунктаў, але і грамадскасць Гайнаўшчыны ды Брэстчыны, агратурыстычныя гаспадаркі ды прадпрыемальнікі ў прыгранічнай зоне.

Другім, намнога большым, з’яўляецца праект „Супольна ахоўваем Белавежскую пушчу”. Прэзентацыю гэтага праекта зрабіў дырэктар бюро Аб’яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна „Белавежская пушча” Ян Хомчук. Вартасць праекта складае 4,4 млн. еўра. З гэтай сумы польскі бок атрымае 2,7 млн. еўра (60,9%), а беларускі — 1,7млн. (39,1%).

Партнёрамі з польскага боку з’яўляюцца Аб’яднанне самаўрадаў Еўрарэгіёна „Белавежская пушча”, Павятовая камендатура пажарнай аховы ў Гайнаўцы, гміны Бельск-Падляшскі, Чаромха, Чыжы, Дубічы-Царкоўныя, Гайнаўка, Кляшчэлі, Нарва, Нараўка і Орля. З беларускага боку — Брэсцкае абласное ўпраўленне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь і такая ж установа ў Гродне. У рамках праекта будзе закупленых васемнаццаць пажарных машын. Атрымаюць іх Добраахвотныя пажарныя каманды ў Пасынках, Піліках, Кляшчэлях, вёсцы Чаромсе, Чыжах, Дубічах-Царкоўных, Нараўцы, Семяноўцы, Нарве, Махнатым і Орлі. На беларускім баку машыны атрымаюць пажарнікі Свіслачы, Поразава, Грынькоў, Пружан, Камянца і Каменюкоў. З таго ж фонду будзе куплена выратавальная лодка. Пяцьдзесят пажарнікаў у Польшчы і трыццаць у Беларусі пакарыстаюцца прафесіянальным абучэннем. Праект будзе ўвенчаны супольнай канферэнцыяй з удзелам пяцідзесяці чалавек.

Апошнім праектам, прэзентаваным на чаромхаўскай канферэнцыі, быў праект „Разбудова трансгранічнай сістэмы ачышчання сцёкаў у вадазборы ракі Буг (Заходні)”. Вартасць праекта — 4 млн. еўра; еўрасаюзныя сродкі складуць 3,5 млн. (90%).

Партнёрамі для Гайнаўскай гарадской гміны з беларускага боку з’яўляюцца: КУМВПЖКГ „Высокаўскае ЖКГ” і Дзяржаўная навуковая ўстанова „Палескі аграрна-экалагічны інстытут Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі”.

У рамках праекта будзе разбудавана ачышчальня сцёкаў у Гайнаўцы, пабудавана ачышчальня сцёкаў з комплексам неабходнага абсталявання ў Камянцы, затым добраўпарадкавана тэрыторыя вакол ачышчальні. Прадугледжваецца стварэнне супольнага рабочага калектыву для распрацоўкі сістэмы маніторынгу ракі Лясной, правядзенне адукацыйнай кампаніі „Зберагай ваду” ды арганізаванне ў Брэсце канферэнцыі „Сучасныя праблемы ачысткі вады і абароны паверхневых вод памежжа”. Прэзентацыю праекта зрабіў бургамістр Гайнаўкі Юры Сірак.

— Вядучым партнёрам праекта, — канстатаваў прамоўца, — з’яўляецца гарадская гміна Гайнаўка і Гайнаўскі павет. Будучы на канферэнцыі ў Высокім, мы наведалі ачышчальню. Такая ж яна як і ў Гайнаўцы. Затым і праблемы з аховай асяроддзя ў Беларусі падобныя да нашых. Кожны бок павінен адольваць свае праблемы. Ад нашага трансгранічнага супрацоўніцтва залежыць як будзем выкарыстоўваць прыродныя багацці натуры, — завяршыў Юры Сірак.

Пасля прэзентацыі арганізатары запрасілі ўдзельнікаў канферэнцыі на пачастунак пры каве і гарбаце. Тут жа вялося партнёрскія размовы на тэму рэалізацыі задач, якія чакаюць самаўрады па абодвух баках мяжы. А шанц атрымалі яны вялікі. Каб адно быў ён належна выкарыстаны для супольнай справы — замацавання трансгранічнага супрацоўніцтва і паляпшэння добрасуседскіх адносін.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# З вершамі ў Міклашэве



Пасля поўдня ў суботу, 23 лістапада гэтага года, адбылася паэтычная сустрэча ў святліцы ў Міклашэве (Гайнаўскі павет). Ладзілі яе солтыс гэтай вёскі Міраслава Трусевіч, радныя Ян Драўноўскі і Люба Янушкевіч ды новая дырэктарка Гміннага асяродка культуры (ГАК) у Нараўцы Галена-Марыёля Рэент. Міклашэва займае шостае месца па колькасці жыхароў у Нараўчанскай гміне (тут у 80 дамах пражываюць 172 асобы, шмат з іх на г.зв. калёніях). Назва вёскі прынялася ад асабовай назвы Міклаш (гэта ж Мікола, Мікалай).

З беларускімі вершамі і апавяданнямі прыехалі ў Міклашэва Тадэвуш Кунцэвіч, Канстанцін Целушэцкі і Янка Целушэцкі (усе яны з’яўляюцца жыхарамі вёсак у Нараўчанскай гміне). На сустрэчу з паэтамі прыйшло трыццаць чалавек, у тым ліку пераважалі прадстаўніцы прыгожага полу. У адрамантаваным пrасторным памяшканні было цёпла (цяпло ішло ад камінка), панавала прыемная сардэчная атмасфера. Былі салодкі пачастунак, кава і гарбата.

З беларускімі аўтарамі пазнаёміла прысутных дырэктарка ГАК. Яна расказала, што сёлетняй восенню паэтычныя сустрэчы арганізавалі ў святліцах у Міхнаўцы, Плянце, Баб’яй Гары і ў Гушчэвіне, а гэтая будзе ўжо пятая. Дадала, што выклікалі яны вялікае зацікаўленне ў жыхароў нараўчанскіх вёсак. Паэтаў усюды прымаюць сардэчна і цёпла. Ёсць у плане яшчэ паездка ў Альхоўку, дзе жыве і літаратурнай творчасцю займаецца былы шматгадовы настаўнік Мікалай Варанецкі. У гэтай вёсцы ёсць прыгожая святліца ў адрамантаваным сёлета мураваным будынку былой школы.

У Міклашэве сустрэча прайшла паспяхова. Вершы — лірычныя, рэфлексіўныя, прыродаапісальныя і гумарыстычныя ды напісаныя на заказ — усім спадабаліся. А гэта вельмі важна. Колькі было воплескаў! Яны цешаць. Аўтары былі задаволены прыёмам.

Варта дадаць, што аўтарскія сустрэчы вельмі спрычыняюцца, між іншым, да распаўсюджвання нашага роднага часопіса — „Нівы”. Усе шэсць экземпляраў 47 нумара беларускага тыднёвіка купілі на пошце ў Нараўцы. Найбольш зацікаўлены „Нівай” гмінныя радныя Л. Янушкевіч і Я. Драўноўскі ды солтыс Міклашэва М. Трусевіч. Яны ж пастаянна чытаюць і ўсё ведаюць, аб чым яна піша.

Пра „Ніву” паэты расказваюць падчас кожнай сваёй аўтарскай сустрэчы. У Міклашэве Канстанцін Целушэцкі чытаў з яе свае свежанадрукаваныя вершы. Я. Целушэцкі прадаў і раздаў прысутным дзесяць экземпляраў „Нівы” (№ 47 ад 24 лістапада г.г.). Было запатрабаванне на большую яе колькасць.

Дырэктарка ГАК і паэты выказваюць шчырую падзяку актыўным радным і мясцовай солтыс за гасціну, якую яны падрыхтавалі ім з нагоды аўтарскай сустрэчы ды запустаў.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка
для дзяцей і моладзі

## Вершы Віктара Шведа

### Зімняй раніцай

З-пад коўдры выглядае нос,
Хлопцу не прыходзіць сон.
А за акном ліхі мароз
І не відаць цяплейшых дзён.

Дрэмле ў снезе хатак рад,
Гэта снежнай зімы дар.
Безупынны снегапад.
Ракам з ложка поўз Макар.

### „Добры” ўчынак

У хаце мама пачула ад сына:
— Зрабіў я сёння добры ўчынак.
Дзеці да школы кнопку прынеслі
І падлажылі яе на крэсле.

Шкада мне стала нашага пана
І я прыдумаў тады нечакана:
Гэтае крэсла адсунуў урэшце,
Калі настаўнік хацеў прысесці.

Кастусь ЦЕЛУШЭЦКІ

### Першы снег

— Мамка, — сын так
просіць міла, —
Ты ж мне саначкі купіла,
Пайду з горкі пакатацца,
У мяккім пуху пакачацца.

Мішка з Віцькам ля гары
Робяць сабе балваны.
Падышоў да іх хутчэй:
Яны ж яшчэ без вачэй?

Сабралася дзяцей шмат:
Маем першы снегапад!
Бегаюць, у снежкі б'юцца.
Балваны стаяць, смяюцца!

### Зіма

Як цяжка прывыкаць
да халоднай пары года.
Снег учора ўпаў,
усю зямлю белым пухам заслаў.
Птушкі пад вокны прылятаюць
і ежу шукаюць.
Трэба цёпла апранацца,
Каб хваробе не паддацца.

***Вікторыя Патонец,***
*Пачатковая школа ў Нараўцы*

## Коцік і мышка



Даўным-даўно была сабе малая мышка, якая жыла ў маленькім доміку поўным сыру. Мышка кожны дзень ела многа кавалачкаў жоўтага сыру, таму што вельмі яго любіла. Аднойчы коцік, які называўся Мурык, прыйшоў да мышкі і лагодна ды з хітрай усмешкай папрасіўся:

— Мышка, дай мне кавалачак сыру, вельмі цябе прашу, я такі галодны!

Мышка падумала і згадзілася, але сказала коціку:

— Дам табе калачак сырка, але дай мне штосьці ўзамен.

— Добра, — сказаў коцік і яны развіталіся.

На наступны дзень коцік, як абяцаў, так і зрабіў. З самага ранку прынёс мышцы свежую рыбу, якую сам злавіў. Падышоў да мышкі і сказаў:

— Гэта падарунак за сыр.

Мышка паглядзела і адказала:

— Я рыбы не хачу. Прынясі мне штосьці іншае.

Коцік абурыўся:

— Бяры рыбу, так як хацела!

— Я вазьму, але есці яе не буду.

— Чаму?

— Бо я не люблю есці рыбу.

Коцік пайшоў дахаты і падумаў: „Я, вось, злавіў рыбу, а яна не схацела яе ўзяць. Пайду спаць. Я так стаміўся”.

На наступны дзень мышка запрасіла коціка ў госці. Спачатку ён не хацеў з мышкай размаўляць, але ўрэшце згадзіўся. Калі Мурык прыйшоў у хату мышкі, яна пачаставала яго гарбаткай і сыркам. І так яны пасябравалі. З гэтага дня гэты коцік і гэтая мышка сталі найлепшымі сябрамі.

**Габрыеля ТОРКА,**
*ПШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*



Фота: Ганны КАНДРАЦЮК

## Увага, конкурс!!!

### Загадкі з роднай хаткі (№ 50-13)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 5 студзеня 2014 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**
Матылі насіліся,
Над зямлёй кружыліся,
А як долу ўпалі —
Белым пухам ступалі.
(с.......)

**2.**
На зіму ён спаць кладзецца,
Да вясны аж не прачнецца,
А прыгрэе сонца ледзь, —
Выйдзе з логава .........

**У. Мураўейка**

**Адказ на загадкі № 48-13: зіма, вясна, лета, восень, сняжынка. Узнагароды, пісьмовы набор, выйгралі Ніколя Вярцінская з Бельска-Падляшскага, Альжбета Харкевіч з Нараўкі, Мая Якімюк з Гайнаўкі. Віншуем!**

# Рэцэпт на зімовую хандру!

З гімназістамі другога „а” класа бельскай „тройкі” мы сябруем ад пачатку. Яшчэ ў часы пачатковай школы разам з „Зоркай” нашыя сябры рыхтаваліся да Каляд. Асновай каляднай сімволікі, як вядома, з’яўляецца зорка. Гэты сімвал напамінае нам пра цеплыню і радасць сустрэчы з іншымі людзьмі. У інтэграцыйным класе гэта разумеюць найлепш. За адной партай сядзелі хворыя і здаровыя дзеці. Яны дапамагалі сабе ў кожнай справе, быццам у сапраўднай сямейцы. У класе панаваў дух сяброўства і гэта было чымсьці найпрыгажэйшым.

І вось, 26 лістапада г.г., яны самі завіталі ў рэдакцыю. Візіт у беларускія рэдакцыі быў адным з пунктаў іх экскурсіі ў сталіцу Падляшша. Пасля наведвання „Нівы” чакала іх сустрэча на Радыё Рацыя. Апрача медыйных атракцыёнаў моладзь наведала яшчэ музей і збіралася пакатацца на каньках.

— Ваша экскурсія, — пытаем ў другакласнікаў, — гэта нейкая ўзнагарода?

— Можна так сказаць, гэта, падарак ад нашых выхавацелек!

Разам з моладдзю прыехалі настаўніцы Галена Хіліманюк і Альжбета Навацкая. Яны таксама распавялі пра свае праекты і планы. Клас рыхтуецца да этнаграфічнай пастаноўкі пад загалоўкам „Юр’е на Бельшчыне”. На аснове абрадаў і песень, што захаваліся ў наваколлі, будуць ставіць спектакль-гульню. З дапамогай выйшлі гаспадары этнаграфічнага музея ў Студзіводах. Пастаноўка будзе элементам праекта „Падляшская мазаіка”, рэалізаванага Бельскім домам культуры. Гутарка пра вясновы спектакль дадаткова ацяпліла і так гарачую атмасферу сустрэчы. Зараз, калі шпаркім крокам набліжаецца зіма з марозам, як ніколі трэба саграваццa добрым словам, цёплымі калядкамі і вясёлымі абрадамі. Не менш радасці могуць прынесці зімовыя віды спорту, як катанне на каньках ці язда на лыжах, санках ці сноўбардзе. Пагуляўшы, не толькі зіма, але і навука здаецца не такой ужо страшнай.

ЗОРКА



Гімназісты з Бельска-Падляшскага

# ЖЫВАЯ ВАДА

Калі ў вёсцы Сасіны стаяла яшчэ старая царква, каля яе біла крыніца з жывою вадою. Прыходзілі сюды людзі хворыя і храмыя, а калі мыліся жывою вадою, дык адыходзілі здаровымі. Слава аб цудоўнай крыніцы ішла далёка па свеце. Усё больш і больш прыходзіла з розных краёў людзей няшчасных на вылячэнне.

Аднойчы прыйшла аднекуль да крыніцы знатная пані з хворым сабакам. Яна без спросу ў людзей выкупала сабаку ў жывой вадзе.

— Што ты робіш? — абурыліся хворыя і калекі.— Ці ж можна купаць у цудоўнай крыніцы нячыстае стварэнне?

— Мой сабака чысцейшы ад вас, паганых, — фанабэрыста адказала пані.

Ніхто з людзей не пасмеў пярэчыць знатнай пані і яе здаравенным лакеям.

Як толькі панскі сабака вылез з вады, на вачах у людзей берагі крыніцы сышліся, жывая вада знікла.

Стогн жаласці пракаціўся па натоўпе... Пані, прадчуваючы нядобрае, праз момант знікла. Людзі кінуліся ратаваць цудоўную крыніцу. Адкопвалі яе чым хто мог. Капалі і рыдлёўкамі, і рукамі.

Капалі і многа, і доўга. Але не маглі трапіць на яе след. Зямля ўсюды была сухая. Пасмутнеўшыя людзі разбрыліся па сваіх хатах.

Праз нейкі час на месцы цудадзейнай крыніцы зноў паявілася вада. Але яна ўжо не біла халодным струменем, а кропля за кропляй сачылася, быццам слёзы. Людзі зноў кінуліся да крыніцы. Кроплю да кроплі збіралі ваду і шукалі ў ёй ратунку ад сваіх няшчасцяў і хвароб. Але вада больш не лячыла.

Як знікла крыніца з жывою вадою, на вёску пасыпаліся няшчасце за няшчасцем. Ноччу ўвосень невядома ад чаго згарэла старая царква. Людзі ўміралі, як мухі, і некаму было хаваць пакойнікаў. Людзі ва ўсім абвінавачвалі фанабэрыстую знатную пані з сабакам. Не шукалі яны збавення ў крыніцы. Сцежкі да яе хутка зараслі травой і карчамі, а людзі пачалі забываць месца, дзе некалі біла жывая вада. Крыніца ж не дала забыць аб сабе. Нават тады, калі збожжа на палях жоўкне ад няўмольнай засухі, на месцы крыніцы заўсёды кропля за кропляй сочыцца вада, быццам слёзы па загубленым шчасці.

## *У пошуках мараў*

*У пошуках мараў*
*Чалавек, які мае мары,*
*Ніколі іх не губляе.*

*Не паддавайся!*
*Не сумнявайся!*
*Шукай сэнсу жыцця!*

*Будучыня належыць тым,*
*якія бачаць прыгожасць*
*сваіх сакрэтных мар!*

*Жыццё без мараў —*
*Гэта не жыццё!*
*Сны без мараў —*
*Гэта не сны!*
*Нават я без мараў —*
*Гэта не я!*

*Раксана КАНАНЧУК,*
*Школа ў Міхалове*

## Польска-беларуская крыжаванка № 50

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклеенным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 46:

Дотык, бор, сваяк, фея, лек, Ас, збор, барада. Мост, лоб, сфера, век, твая, на, какос.

Узнагароды, **запісныя кніжкі,** выйгралі **Барташ Ламашкевіч** з Нараўкі, **Марыюш Красько, Магдалена Мішчук** з Арэшкава, **Зузанна Пятроўская, Марлена Лабаноўская** з Бельска-Падляшскага, **Каміль Цілюлька, Мартына Куклік, Вікторыя Мураўская** з Бабікаў, **Наталля Савіцкая** з ПШ № 4 у Беластоку, **Радаслаў Васько** з Гайнаўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Chlorofil | | | | | | | | | Łoś | Przykład | |
| Jad | | Chód | | As / Ryż | Podwozie | Waga | Alt | | Indyk | | |
| | | Trap | Halo / Ruda | | Mielizna | | | | | Ar | |
| Odbiorca | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | |
| Karuzela / Topola | | | | Lit / Sad | | | | | | | |
| | | | | | | | | Kod | | | |

# Зоська Верас,

Людвіка Сівіцкая-Войцікава, вядомая яшчэ з міжваеннага перыяду як Зоська Верас, пражыла вельмі доўгае жыццё — амаль сто гадоў. Нарадзілася 30 верасня 1892 г. у Мяджыбажы на Украіне, а памерла 8 кастрычніка 1991 г. у Вільні. Дзяды яе па маці — Садоўскія — паходзілі з Альхоўнікаў на Сакольшчыне, а бацька з Гародні. Людвіка Сівіцкая-Войцікава была сведкам цікавых падзей яшчэ да I сусветнай вайны, міжваеннага перыяду, дзвюх войнаў і пасляваеннага часу. Яе жыццё супала з развіццём беларускага нацыянальнага руху — ад „нашаніўскай пары” да абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Аднаго жыцця хапіла, каб назіраць і заадно ўдзельнічаць у беларускім руху, асабліва ў 1909-1938 гг. Доўгае жыццё і адкрытасць Людвікі Войцікавай на людзей выклікалі цікаўнасць да яе, як сведкі гістарычных падзей, шматлікіх гісторыкаў, літаратуразнаўцаў і літаратараў, маладых беларускіх дзеячаў, пачынаючы з 60-х гадоў XX ст. Як напісала Галіна Войцік у біяграфіі сваёй маці (*Зоська Верас*, Вільня 2002) першым, хто звярнуўся да яе (у 1961 г.), быў Арсень Ліс. Ён, як сказала Зоська Верас, „абудзіў яе з летаргічнага сну” (с. 16) і перамяніў яе жыццё.

З нагоды 120-х угодкаў нараджэння Людвікі Войцікавай „Гарадзенская бібліятэка” задумала выдаць аднатомнік яе спадчыны. Укладальнікам стаў Міхась Скобла, які таксама падрыхтаваў тэкст, напісаў прадмову, каментары, імянны паказальнік, зрабіў камп’ютарны набор, рэдактуру і карэктуру. На самой справе можна сказаць, што выканаў усю неабходную працу ад пачатку да канца. Ідэя гарадзенцаў так прыгожа ўшанаваць памяць Людвікі Сівіцкай зводзіцца да сплачвання ёй даўгу за яе ўспаміны пра Гарадзенскі гурток беларускай моладзі і яго дзеячаў, за ўспаміны пра „старое Гродна”. Дарэчы, шмат хто абавязаны ўшанаваць яе памяць не толькі ў Гародні, але і ў Менску, Вільні, а нават на Беласточчыне. Многія яе карэспандэнты выкарысталі яе веды ў сваіх публікацыях, апублікавалі яе лісты.

Справа асобнага кніжнага выдання заўсёды зводзіцца да грошай, таму незалежна ад добрых памкненняў не ўсім пад сілу падрыхтаваць аднатомнік блізка на паўтысячы старонак у цвёрдай вокладцы. Афіцыйным беларускім выдавецтвам пакуль не ў галаве выданне спадчыны Зоські Верас. З „Каментара” ў канцы кнігі можна даведацца, што з яе багатага творчага даробку „да гэтай пары пабачыла свет толькі кніжачка для дзяцей „Каласкі” (1985)” (с. 420). Міхась Скобла ўспамінае пра выдадзены ў 1924 г. у Вільні „Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік”, але, відаць, не ведае пра яго рэпрынтнае выданне з 1992 г., падрыхтаванае Святланай і Алесем Жынкінымі, а прафінансаванае Беларускім культурным таварыствам „Хатка” з Гданьска. Дзякуючы гэтаму выданню слоўнік вярнуўся да чытача, і нават стаў прадметам навуковых мовазнаўчых доследаў, не толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы, якія ў форме рэфератаў прыходзілася мне чуць на навуковых беларусазнаўчых канферэнцыях у Польшчы і ў Беларусі. Нават словы падзякі давялося мне асабіста пачуць ад Галіны Войцік, дачкі Зоські Верас. На той час не трэба было шмат грошай на перавыданне скромнага слоўніка. Бачачы такую праблему перад выдаўцамі, выняла я з кашалька грошы, папрасіўшы толькі, каб недзе пазначылі ў якасці спонсара выдання Беларускае таварыства ў Гданьску. Слоўнік быў перавыдадзены тыражом у 1000 экземпляраў, з якіх і мне крыху дасталася дзеля распаўсюджвання.

Зоська Верас „пісала вершы, апавяданьні і ўспаміны, перакладала п’есы для дзіцячага тэатру, працавала ў шматлікіх асьветніцкіх і грамадзкіх арганізацыях, рэдагавала часопісы „Заранка”, „Пралескі” і „Беларуская борць”, была нястомнай аўтаркай многіх заходнебеларускіх пэрыёдыкаў, пачынаючы ад легендарнай „Нашай нівы”. Дзясяткі дасьледчыкаў зьвярталіся да яе па падказку — толькі за паваенны час З. Верас па яе ўласным прызнаньні напісала больш за 6000 лістоў. Яна блізка ведала М. Багдановіча, Б. Тарашкевіча, А. Смоліча, Ст. Грынкевіча, А. Луцкевіча, А. Уласава, С. Рака-Міхайлоўскага і дзясяткі іншых выдатных дзеячаў, пра якія маўчалі беларускія савецкія энцыклапедыі” (с. 420).

У кнізе „Я помню ўсё” змешчана аўтабіяграфія Людвікі Сівіцкай з 1978 г. (с. 10-12), успаміны (с. 13-86) і лісты (с. 87-419). Кароткая аўтабіяграфія дае ўяўленне пра асобу. Хаця аўтарка прадстаўляе сваё паходжанне і пройдзены жыццёвы шлях, аднак па-за яе ўвагай асталіся прыватныя сямейныя справы — ейныя мужы (Фабіян Шантыр і Антон Войцік) і дзеці (Антон Шантыр і Галіна Войцік). Яны паяўляюцца ў абшырнейшых успамінах, пісаных у 1975-1983 гг., якія ахопліваюць перыяды ад дзяцінства да заканчэння дзейнасці таварыства „Пчала” ў 1938 г. Беручы пад увагу тое, што пісаліся яны з перспектывы каля сарака гадоў на працягу 8 гадоў, складаецца ўражанне, што паўставалі яны пад канкрэтныя заказы розных асоб, а ў кнізе яны спалучаны ў цэласць з падзелам на храналагічныя часткі. Некаторыя з іх публікаваліся ў розных выданнях. Нам у Польшчы вядомыя ўспаміны „Гродзенскі гурток беларускай моладзі”, якія друкаваліся ў „Беларускім календары” на 1981 г. (Беласток 1981, с. 180-189), дзякуючы яго рэдактару Міколу Гайдуку, які 31 красавіка 1979 г. таксама адведаў Зоську Верас у „лясной хатцы” пад Вільняй (с. 166). Ці не першая гэта пасляваенная публікацыя ўспамінаў пра ГГБМ? У Беларускім музеі ў Гайнаўцы ў фондзе Міколы Гайдука захаваліся пісьмы Зоські Верас да яго. А ў згаданай публікацыі ў „Беларускім календары” на с. 180 змешчаны здымак Міколы Гайдука, на якім Людвіка Войцікава (Зоська Верас) са сваім унукам-інжынерам Яраславам.

У 1971 г. у „Белавежы. Літаратурным альманаху” (Беласток 1971, с. 191-192) былі надрукаваны ўспаміны Людвікі Войцікавай „Пяць месяцаў у Мінску (З жыцця Максіма Багдановіча)”. Яшчэ раней, у 1968 г. у „Ніве” (№ 22, 2.06.1968 г., с. 4-5, Л. Войцікава, „Заранка (З маіх успамінаў)”) быў апублікаваны артыкул-успамін Зоські Верас аб „Заранцы” (с. 351, ліст да Арсеня Ліса, у якім пра тое ўспамінае). Шкада, што каментатар не парупіўся яго адшукаць і зрабіць у гэтым месцы на яго спасылку. У згаданым лісце Зоська Верас пісала Арсеню Лісу, як дзякуючы „ніўскай” публікацыі наладзіла сувязь з сям’ёй у Польшчы. Дарэчы, ва ўспамінах Зоська Верас (с. 75) напісала: „Аб „Заранцы” ўжо напісана, паўтараць не буду”. Ці не „ніўскія” ўспаміны мела на думцы? Калі так, варта было іх таксама змясціць у кнізе, або прынамсі зрабіць на іх спасылку. Шкада, што і ў гэтым месцы не хапіла каментатару дапытлівасці: дзе ж яны былі апублікаваны?

Наогул варта згадаць пра кантакты Людвікі Войцікавай з беластоцкай „Нівай”, пра што астаўся след ва ўспамінах тадышняга галоўнага рэдактара Георгія Валкавыцкага „Віры” (Беласток 1991, с. 98-102). Пачаліся яны ў 1966 г. у красавіку. Георгій Валкавыцкі пісаў: „У красавіку люстравала нас таксама віленская магіканка Людвіка Войцікава (Зоська Верас). З’явілася як помнік далёкага мінулага. Замры і слухай” (с. 98). Каб перажыць паўторна „сустрэчу з жывой гісторыяй”, уключыў ён у свае ўспаміны 8 лістоў Людвікі Войцікавай, якія даслала яна ў рэдакцыю на працягу ад красавіка да кастрычніка 1966 г. Варта пра тое ведаць, публікуючы ўспаміны і пісьмы Зоські Верас.

5 красавіка 1966 г. пісала яна: „Паважаная і дарагая рэдакцыя. Ад часу да часу пападаецца мне ў рукі „Ніва”, а цяпер і каляндар за 1966 год. Дакладна ўсё чытаю і цешуся, а не раз і сляза набяжыць на вочы, калі чытаю да болі родныя назвы мястэчкаў ды вёсак... Новы Двор, Сухаволя, Сідра. А можа ўспаміналіся калі і Бернікі, Стрэльчыкі, Біты Камень і г.д. Ужо 43 гады жыву ў Вільні, а ўсё для мяне тут чужое, а там, у Сакольшчыне — роднае, дарагое” („Віры”, с. 98). Адразу таксама прапанавала свае ўспаміны пра Гродзенскі гурток беларускай моладзі: «Калі б рэдакцыю гэта цікавіла, то магу напісаць аб працы Гуртка падрабязна, а нават прыслаць фатаграфію з 1911 года. А пакуль што ўспомню, што мы ставілі спектаклі, мелі хор, аркестр і г.д. Калі б „Ніве” была патрэбна фатаграфія У. Галубка, то я магу прыслаць. Маю таксама фатаграфію помніка Ядвігіна Ш. на яго магіле ў Вільні. Вельмі шкадую, што не магу выпісаць „Ніву”». Магчыма Георгій Валкавыцкі пасылаў Людвіцы Войцікавай „Ніву”. Напэўна адказаў ёй на ліст і так завязалася паміж імі перапіска. Магчыма, галоўны рэдактар „Нівы” намаўляў Зоську Верас пісаць успаміны, як гэта рабіў у адносінах да шмат каго з былых беларускіх дзеячаў, напр. намовіў пісаць успаміны Мар’яна Пецюкевіча. У адказе на ліст Георгія Валкавыцкага 27 красавіка яна пісала: „На гэты раз пасылаю Вам толькі фатаграфію У. Галубка і сваю кароценькую біяграфію, каб не быць для Вас нейкім „Х”. (...) Праз усё сваё жыццё — пачынаючы ад 1909 года — старалася быць карыснай для беларускай справы. Наколькі мне гэта ўдавалася, судзіць не бяруся... Ад вайны ў нас у Вільні аб ніякай беларускай грамадскай працы і гутаркі быць не можа, бо і беларусаў амаль няма. Успамінаю мінуўшыя гады і тых людзей, дзеячаў-беларусаў, якіх знала. Пішу аб гэтым, можа з’явяцца ў Вас пытанні, на якія магла б адказаць.




Трэба спяшаць падзяліцца з людзьмі чым магу, бо мне ўжо 73 гады ды яшчэ з паловаю! У хуткім часе вышлю ўспаміны аб Гарадзенскім гуртку. Ці варта будзе іх публікаваць — пабачыце, я толькі папярэджваю, што гэтыя ўспаміны (праўда, крыху скарочаныя) друкаваліся ў „Студэнцкай думцы” — органе Віл[енскага] Бел[арускага] Студэнцкага Саюза” („Віры”, с. 98-99).

Відаць, прачытаўшы біяграфію Зоські Верас, Герогій Валкавыцкі заказаў у яе ўспаміны пра „Заранку”, бо ўжо 2 мая 1966 г. яна пісала: „Ахвотна падзялюся ўспамінамі аб „Заранцы”, але раней мушу скончыць успаміны аб Горадзенскім Гуртку Беларускай Моладзі. Думаю, што праз тыдзень змагу гэтыя ўспаміны Вам выслаць. Вышлю бандэроляй, бо адначасна ўлажу некалькі нумараў „Беларускай Борці”. Як я яе рэдагавала, то мела чытачоў і ў Вас, менавіта ў Паўночным Востраве. Была там у мяне сымпатычная чытачка Софія Лісоўская. (...) Вышлю і пару нумараў „Заранкі”. Хачу таксама ўлажыць свой „Батанічны Слоўнік” (Зоська Верас — мой псеўданім), можа каго-небудзь зацікавіць. (...) Не дзівіцеся, што я так маруджу з успамінамі, усяму віной вясна. Толькі вечарам магу пісаць. Дзякую за падпісаную „Ніву”. Прыміце пажаданні спорнай працы на карысць нашай Бацькаўшчыны” („Віры”, с. 99). Зоська Верас паслала свае ўспаміны толькі 20 чэрвеня, ды і то не ўсе, а 22 чэрвеня пісала галоўнаму рэдактару „Нівы”: „Пазаўчора, нарэшце, выслала Вам абяцанае: успаміны аб ГГБМ, „Заранку” (камплект за 1927 год), крыху „Беларускай Борці”. (...) Цяпер вазьмуся за ўспаміны аб „Заранцы”. Шчыра дзякую за „Ніву”. Атрымліваю акуратна” (с. 99-100). Дзякуючы „Ніве” Зоська Верас скантактавалася з Сяргеем Новікам-Пеюном з Менска, які дапамагаў ёй у міжваенны час рабіць „Заранку”. 5 верасня (у „Вірах” здаецца памылкова: кастрычніка) 1966 г. пісала да Георгія Валкавыцкага: „Маю да Вас вялікую просьбу: будзьце ласкавы, прышліце мне адрас Сяргея Новіка-Пеюна. Зварочвалася ў гэтай справе ў Мінск да знаёмых, і мне адказалі, што „не ведаюць, дзе яго шукаць”! Дзіўны адказ, праўда? С. Новік пад псеўданімам Малады Дзядок быў актыўным і шчырым супрацоўнікам „Заранкі”. Хачу звярнуцца да яго з просьбай дапамагчы маёй памяці і высніць пару дэталяў з жыцця „Заранкі”. (...) Крыху дзіўна і смешна, маючы Мінск блізка, прасіць адрас у Вас. Але што ж парадзіць? Пры аказіі дасылаю крыху матэрыялаў у „Зорку” і ў жаночы куточак” („Віры”, с. 100). Відаць галоўны рэдактар „Нівы” даволі хутка здзейсніў просьбу Людвікі Войцікавай і запрапанаваў друк яе ўспамінаў, пра што пісала яму 15 верасня: „Шчыра дзякую за каляндар, „Белавежу” і ліст з адрасамі. А ўжо спецыяльна дзякую за прапанову друкаваць мае ўспаміны. Праўду кажучы, на іх выданне я не мела ніякай надзеі. Як ведаеце, у нас прыватныя выдавецтвы не практыкуюцца, а для Мінска мае ўспаміны не надаюцца. Мая дзейнасць не іграе ніякай ролі, справа ў тым, што я на сваёй жыццёвай дарозе спаткала шмат, шмат людзей: нашых пісьменнікаў, дзеячаў і г.д. Вось іх стараюся ўспомніць. Да канца далёка і друкаваць адразу немагчыма — заняло б шмат месца. Не ведаю, калі збіраецеся выдаваць наступны альманах” („Віры”, с. 100). З гэтага ліста вынікае, што Людвіка Войцікава ўжо ў 1966 г. актыўна ўзялася за пісанне ўспамінаў і то відавочна з інспірацыі галоўнага рэдактара „Нівы” Георгія Валкавыцкага.

11 кастрычніка 1966 г. пісала яму: „Думаю, што „Ніва” будзе адзначаць 75 угодкі з дня нараджэння Максіма Багдановіча (27 г[этага] месяца). Пасылаю Вам свае ўспаміны аб пяцімесячным прабыванні М. Багдановіча ў Менску (1916-1917). Калі падыдзе да друку — друкуйце, а калі не, то ўсё ж Вам, пэўна, будзе цікава з гэтым матэрыялам пазнаёміцца. Як Вы паглядзіце на гэта, што М. Багдановіч жыў у шчырай прыязні з такімі „ворагамі народу”, як Смоліч, Галубок, Ядвігін і г.д.? Я Вашых поглядаў не ведаю, але перакананая, што менскія афіцыяльныя кругі ніяк бы з гэтым не згадзіліся і прамаўчалі б — як бы гэтых зносінаў і не было. (...) У выпадку, калі б мой матэрыял быў закваліфікаваны да друку, то ў мяне да Вас вялікая, вялікая просьба: калі будзеце папраўляць (гэта Ваша рэдактарскае права), то, змілуйцеся, не змяняйце гарбату на чай і ліст на пісьмо! Паверце, я страціла шмат часу на студыяванне цэлай кучы старых лістоў да мяне ад розных асоб з розных канцоў нашай Бацькаўшчыны, лістоў, пісаных чыстай, прыгожай мовай, і трымаюся гэтай мовы з усёй сілы. Мы, старыя беларусы, вельмі чуткія на кожнае чужое слова” („Віры”, с. 101). Георгій Валкавыцкі з павагай паставіўся да прысланых успамінаў. У сваіх „Вірах” пісаў: „Успаміны Зоські Верас пра Максіма Багдановіча ў „Ніву” спазніліся, але здарожаны паэт неўзабаве піў „гарбату” ў „Белавежы” (альманах № 2). Гродзенскі гурток вымушаны быў крыху пачакаць на адпаведную плошчу ў „Беларускім календары” (заняў яе ў 1981 годзе). Надрукавалі і ўспаміны аб „Заранцы” („Ніва”, 2.06.1968) („Віры”, с. 102).

Георгій Валкавыцкі на старонках „Віроў” больш не ўспамінаў Людвікі Войцікавай, хаця ў 1976 г. у „Ніве” (№ 52, 26.12.1976, с. 3, 5) паказаліся яе ўспаміны „Гісторыя беларускага адрыўнога календара”. 30 студзеня 1977 г. пісала яна Ларысе Геніюш, якая, відаць, прыслала ёй „Ніву” з гэтым артыкулам: „Сардэчна дзякую за „Ніву”. Рада мець нумар са сваім артыкулам. Добра адбілася картка з календара. Шкада толькі, што не адбілі і адваротнага боку, які я ім таксама паслала. Менск наагул гэтым не зацікавіўся” (с. 134). Укладальнік зрабіў спасылку на гэты артыкул, але шкада, што гэтыя ўспаміны не ўвайшлі ў кнігу. Можна іх таксама прачытаць у зборніку гістарычнай літаратуры „Бацькаўшчына” (Мінск 2001, с. 268-270), складзеным паклоннікам Зоські Верас — Сяргеем Панізнікам.

У біяграфіі Зоські Верас (с. 20) Галіна Войцік, пералічваючы публікаваныя ўспаміны маці, згадала „У гасцях у Леўчыка і Г. Леўчык”, якія быццам бы былі апублікаваны ў „Ніве”. Паколькі „Нівы” пад рукамі няма і невядома ў якіх гадах іх шукаць, Г. Валкавыцкі іх таксама не ўспамінае, ды ў біябліяграфічным слоўніку „Беларускія пісьменнікі” ні пры Гальяшу Леўчыку (т. 4, Мінск 1994, с. 34-35), ні пры Зосьцы Верас (т. 2, Мінск 1993, с. 10-11) іх не знаходжу, вяртаюся да яе лістоў. Яны крыху паясняюць справу ўспамінаў пра Гальяша Леўчыка. Аказваецца, Зоська Верас пісала іх да 90-х угодкаў з дня нараджэньня паэта і паслала іх Сяргею Новіку-Пеюну (с. 104). З бібліяграфіі вынікае, што апублікаваныя яны былі ў „Літаратуры і мастацтве” 30 верасня 1977 г. — „Мае сустрэчы з Гальяшом Леўчыкам”. У зборніку Г. Леўчыка „Доля і хлеб” (Мінск 1980), укладзеным Янкам Саламевічам, у частцы ўспамінаў пра паэта знаходзяцца тэкст Зоські Верас — Людвікі Войцік „Гальяш Леўчык” (с. 155-160) і лісты паэта да яе (с. 115-126). Гэтыя ўспаміны пра Гальяша Леўчыка Зоська Верас паслала таксама ў Беласток, пра што пісала 23 ліпеня 1979 г. Адаму Мальдзісу: „Калі мяне папрасілі з Беластоку прыслаць ім у каляндар свае успаміны аб Г. Леўчыку, я насамперад запыталася ў Я. Саламевіча, што ён на гэта скажа, бо ведала, што гэтыя ўспаміны ён даў у зборнік Леўчыка. І толькі тады, калі

# Я помню ўсё. Успаміны, лісты, Гародня — Wrocław 2013, 475 с.

напісаў мне „пасылайце абавязкова”, я дала згоду і матэрыял паслала” (с. 167). Аднак у „Беларускі каляндар” на 1980 г. успаміны Зоські Верас не ўвайшлі (рэдагаваў яго Г. Валкавыцкі). У каляндар артыкул „Пра Гальяша Леўчыка” напісаў Юры Туронак (с. 155-160). У ім аўтар спаслаўся на ўспаміны Л. Войцікавай пра членаў зямляцтва студэнтаў-беларусаў Варшаўскага ўніверсітэта і аспрэчыў фрагмент успамінаў яе наконт ваенных лёсаў і смерці Г. Леўчыка: „Не сядзеў ён на грузавішчы, — як піша Людвіка Войцікава, — паколькі дом не быў разбураны” (с. 158). Для Зоські Верас пэўная была смерць Г. Леўчыка ў 1944 г.: „памёр сваёй смерцю” (Г. Леўчык, „Доля і хлеб”, с. 160), а для Юркі Туронка яна была „невядомая”: „Аб апошніх днях жыцця Леўчыка — толькі домыслы...” („Беларускі каляндар 1980”, с. 159-160). Дарэчы, здымак Г. Леўчыка ў „Беларускім календары 1980”, як пад ім пазначана, узяты з архіва Л. Войцікавай (с. 157).

29 сакавіка 1981 г. у „Ніве” (№ 13, с. 5) у „Адгалосках” быў змешчаны ліст Л. Войцікавай ад 17 ІІ 1981 г. „Яшчэ пра Родзевічаў”. Звяртаю спецыяльна ўвагу на запіс даты, у якой месяц пазначаны рымскімі лічбамі. Відаць, так пісала аўтарка. 23 чэрвеня 1985 г. у „Ніве” (№ 25) на першай і чацвёртай старонках былі апублікаваны ўспаміны Зоські Верас „Віленскія кірмашы”. Бадай гэта ўсё з яе спадчыны, што паказалася друкам у беларускіх выданнях на Беласточчыне. Не ведаю, ці дзе яшчэ надрукаваны верш Уладзіміра Пецюкевіча, прысвечаны Зосьцы Верас (з нагоды яе 90-х угодкаў нараджэння): „У хаціне пад кронамі гаю...”, але напэўна змешчаны ён у „Ніве” ад 30 верасня 1984 г. (с. 11) — на 92-ю гадавіну юбіляркі. Шкада, што гэты прыгожы верш не апынуўся ў зборніку яго творчасці „Узняўся белы птах” (Вільня 2004, 564 с.).

У альманах „Краю мой — Нёман: Гродзеншчына літаратурная” (Мінск 1986) увайшлі ўспаміны „Старое Гродна”. Пераглядаючы бібліяграфію Зоські Верас (так яе называе бібліяграфічны слоўнік „Беларускія пісьменнікі”), аказваецца тое-сёе з яе ўспамінаў і твораў друкавалася, нават па некалькі разоў, пачынаючы з 1967 г. Цэласць успамінаў — як вынікае з каментара — апублікаваных у кнізе захоўваецца ў архіве с.п. Віталя Скалабана, які бываў у гасцях у іх аўтаркі. Іх копія захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архівемузеі беларускай літаратуры і мастацтва ў Менску і яна паслужыла дзеля публікацыі ў кнізе. Магчыма на арыгінале пачатак іх пісання пазначаны на 1975 г., але варта ведаць, што Зоська Верас пачала іх пісаць раней — у 1966 г. і несумненная ў гэтым заслуга галоўнага рэдактара „Нівы” Георгія Валкавыцкага. Трэба мець надзею, што яго лісты да Людвікі Войцік захаваліся і можна тое праверыць.

Дарэчы, у лістах Зоські Верас часта паяўляецца беластоцкая „Ніва”, што сведчыць пра пастаяннае яе чытанне. Як доўга падпісваў яе Зосьцы Верас Георгій Валкавыцкі? 15 лістапада 1979 г. пісала Мікалаю Марцінчыку ў Гародню, што „Ніву” выпісаў ёй Юрка Туронак (с. 174), з якім пачала перапісвацца ў 1978 г. (с. 154).

Сур’ёзнай крыніцай інфармацый, своеасаблівымі ўспамінамі ў кнізе з’яўляюцца лісты, складзеныя храналагічна, пачынаючы ад 28 мая 1967 г. Ларысе Геніюш, а канчаючы лістом Вячку Целешу ад 24 ліпеня 1989 г. — разам 386. Гэта 22 гады жыцця Зоські Верас і пісання лістоў да выбраных карэспандэнтаў — да Ларысы Геніюш, Арсеня Ліса, Алеся Белакоза, Адама Мальдзіса, Яўгена Петрашэвіча, Аляксея Пяткевіча, Янкі Саламевіча, Аляксея Анішчыка, Уладзіміра Ягоўдзіка, Фёдара Ігнатовіча, Мікалая Марцінчыка, Дануты Бічэль, Вячкі Целеша, Міхася Верацілы, Міколы Таранды, Аляксандра Госцева. Лісты Зоські Верас спецыфічныя сваім „успамінным” характарам, хаця прасочваюцца ў іх і актуальныя прыватныя адносіны, і самаадчуванне, і хваробы старасці.

Публікацыя лістоў заўсёды выклікае сумніўнае этычнае пытанне, ці можна даваць іх у друк, калі яны пісаліся канкрэтнай асобе, калі гэта прыватная карэспандэнцыя. Міхась Скобла, праўда, публікуе іх за згодай уласнікаў, якіх пералічыў (с. 421). Шкада, што сярод іх забыўся падзякаваць Людвіцы Кардзіс з Вільні, якая перахоўвае лісты Зоські Верас Аляксею Анішчыку і дазволіла імі пакарыстацца ўкладальніку. 367 лістоў публікуюцца ўпершыню. Большасць з іх захоўваецца ў прыватных калекцыях, што з’яўляецца асабліва цэнным — у А. Госцева, Ф. Ігнатовіча, А. Ліса, А. Пяткевіча, Я. Саламевіча, М. Таранды, В. Целеша.

Хаця ўкладальнік стараўся захаваць асаблівасці мовы лістоў, але дапытлівы чытач заўважыць, што пры кожным лісце знармалізаваная дата. Хочацца запытаць укладальніка: а як даты запісвала сама Зоська Верас? Няўжо пісала так як гэта зрабіў укладальнік? Мне здаецца, што ўсё ж такі трэба захоўваць і арыгінальна запісаную дату. Наогул нешта з датамі не тое. Ці то віна камп’ютара можа? У лісце Дануце Бічэль ад 1 лютага 1980 г. Зоська Верас піша пра смерць доктара Мікалая Марцінчыка (с. 181), а праз пару старонак знаходзіцца пісьмо да яго з 10 сакавіка 1980 г. (с. 184), у лісце Дануце Бічэль ад 11 мая 1980 г. піша пра яго як цяжка хворага (с. 188-189), а ў лісце Дануце Бічэль з 5 чэрвеня паведамляе пра смерць М. Марцінчыка. Сваёй дарогай, цікавая сітуацыя атрымалася — Зоська Верас паведамляла „гарадзенку” Дануту Бічэль пра лёс „гарадзенца” Мікалая Марцінчыка...

Падобная сітуацыя з лістамі, у якіх Зоська Верас паведамляе пра смерць сваёй сяброўкі Юзі Фалькоўскай з Грынкевічаў: у лісце да Ларысы Геніюш з 11 красавіка 1981 г. Зоська Верас пісала пра смерць сястры доктара Грынкевіча (с. 135), а ў лісце да Вячкі Целеша з 3 чэрвеня 1981 г. пісала, што памерла яна ў Варшаве 9 траўня — дык выходзіць на тое, што 11 красавіка яшчэ жыла. І яшчэ адна заўвага адносна назвы месяца — Зоська Верас карыстаецца назвай травень, а ўкладальнік піша: май. Дзе тут паслядоўнасць?

Асаблівым кур’ёзам становіцца ліст пісаны Дануце Бічэль быццам бы 10 лютага 1982 г., а ў яго змесце гаворка пра восень: „Нетыповая восень. Цёпла, сяньня +5”. Ці не было гэта 10 лістапада (10.11.) выпадкова?

Некаторыя лісты без датыроўкі і часам хопіць іх прачытаць, каб прыблізна пазначыць іх год напісання. Па мойму ліст 27 (с. 110) Аляксею Пяткевічу пазначаны ў квадратных дужках, як напісаны ў 1970 г., павінен быць пазначаны прынамсі як 1976, мова ў ім пра восень 1975 г. У сувязі з тым па прынцыпе храналогіі павінен ён быць значна далей. Хаця на лісце Зоські Верас Аляксею Пяткевічу (284, с. 336-337) пазначана дата 3 верасня 1986 г., калі яго чытаецца, паяўляюцца сумненні наконт гэтай даты, бо аўтарка піша ў ім пра святкаванне 110-х угодкаў нараджэння Цёткі, якое адбылося 13 верасня ў Новай Вялейцы. І дзе тут няпраўда — ці ў даце ліста, ці ў даце святкавання? Не ведаю таксама чаму ўкладальнік памясціў раней ліст Аляксею Пяткевічу (285, с. 338), перад лістом Міколу Таранду, хаця той другі мае ранейшую датыроўку. Невядома таксама ў чым справа з лістом 325 (с. 375) Дануце Бічэль — ці не памылены ў ім год (1989), бо змешчаны ён паміж лістамі з 1987 г. Мабыць, гэта дробязі, але ва ўважлівага чытача яны выклікаюць сумненні — ці памылялася Зоська Верас, ці ўкладальнік?

З гэтага, што я ведаю, у Польшчы ў Зоські Верас апрача Георгія Валкавыцкага і Юркі Туронка былі таксама іншыя карэспандэнты, з якімі перапісвалася — Мар’ян Пецюкевіч, Язэп Александровіч (Найдзюк), Казімір Грынкевіч, Юзя Фалькоўская, Аляксандра Бергман. Гэтыя асобы паяўляюцца таксама ў апублікаваных у кнізе лістах і варта на будучыню паклапаціцца і пра перапіску з імі, калі яна ўцалела. Лісты да Мар’яна Пецюкевіча захоўваюцца ў ягоным фондзе ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі Навук у Менску. Мар’ян Пецюкевіч называў Зоську Верас „беларускай энцыклапедыяй”. У лісце да Аляксандры Бергман ад 16 лістапада 1972 г. ён раіў да яе звяртацца з пытаннямі: „Гэта аўтарытэтная асоба, многа ведае з жыцця і дзейнасці выдатных беларусаў і пры тым, нягледзячы на свае 80 гадоў, мае вельмі добрую памяць. Мінск у многіх справах звяртаецца да яе, як у архіўныя фонды. Яна зараз занятая пісаннем віленскіх успамінаў” (М. Пецюкевіч, „Лісты (1956-1982)”, Беласток 2005, с. 73). У лісце Уладзіміру Ягоўдзіку ад 9 снежня 1977 г. Зоська Верас пісала, што з Аляксандрай Бергман „знаёмая асабіста” (с. 142). Пэўна ў архіве адной і другой захавалася іхняя перапіска таксама. Ці асталіся лісты да Язэпа Найдзюка і Юзі Фалькоўскай, трэба гэта спраўдзіць. Захавалася пару лістоў да Казіміра Грынкевіча. Паколькі Людвіка Войцікава была выхаванкай кс. Францішка Грынкевіча, залежала ёй, каб сабраць як найбольш інфармацыі пра яго і яго малодшага брата Станіслава — лекара і беларускага дзеяча. Старалася зацікавіць гэтымі асобамі сваіх карэспандэнтаў у Беларусі, асабліва на Гарадзеншчыне. Паколькі мне таксама прыйшлося даследаваць іх жыццё і дзейнасць, перад усім на аснове дакументаў, якія захаваліся ў сямейным архіве, павінна я выправіць хібы памяці Зоські Верас, каб на іх не спасылаліся іншыя даследчыкі. У лісце 31 Аляксею Пяткевічу (с. 116-118) яна пісала, што кс. Францішак памёр у Гродне, а папраўдзе памёр ён 26 ліпеня ў Косаве каля Залешчык, дзе прабываў на лячэнні. Пахавалі яго сапраўды ў Гродне направа ад капліцы. У тым жа лісце пісала, што яго брат Станіслаў „памёр у Менску ў турме”. У гэтым выпадку ёсць розныя варыянты смерці — ці памёр ад дызентэрыі на этапе (але не ў Менску), ці расстраляны быў у Магілёве 25 ліпеня 1945 г. 14 мая 1979 г. у лісце Фёдару Ігнатовічу пісала тое ж самае пра яго смерць — „год 1944 (мо пачатак 1945-га)” (с. 162). Не згаджаецца таксама год яго арышту — арыштавалі яго саветы летам 1944 г. У 1943 г., як напісана ў лісце, у Вільні яшчэ не было саветаў. Памылілася таксама Зоська Верас, калі пісала пра яго працу ў Харошчы, лакалізуючы яе чамусьці на Бельшчыне, а не пад Беластокам. 11 снежня 1979 г. у лісце Фёдару Ігнатовічу далучыла апрацаваную ёю біяграфію доктара Станіслава Грынкевіча (с. 175-176). У ёй апрача згаданай смерці ёсць некалькі недарэчнасцей. Тое, што канчаў ён медыцыну ў Познані, было больш складаным, чым „сямейныя абставіны”. Раю паглядзець мой артыкул „Вяртанне да сваіх Станіслава Грынкевіча” ў „Ніве” ў 2000 г. (№ 19-21). У згаданым лісце зноў паўтараецца распалажэнне Харошчы на Бельшчыне, замест пад Беластокам. Дарэчы, ёсць супярэчныя дадзеныя, калі ён пачаў працаваць у Харошчы. Напэўна ў 1934 г. у верасні яшчэ працаваў у Познані і праўдападобна ўвосень 1934 г. пераехаў у Харошчу, дзе працаў аж да мабілізацыі ў 1939 г. Зоська Верас падае па памяці, што „перад самай 2-ой сусьветнай вайной (ці не ў 1937-м) прыехаў з сям’ёй у Вільню”. Гэта не да канца праўда. У 1937 г. С. Грынкевіч набыў гаспадарку ў Еразалімцы пад Вільняй. Да 1939 г. выязджаў туды з сям’ёй на канікулы, а гаспадарылі там знаёмыя з Навадворшчыны — Заманы і Точкі. Рэчаіснасць 1939 г. прымусіла сям’ю там астацца пасля канікулаў, а С. Грынкевіч якраз удзельнічаў у абарончай вайне, дзе быў арыштаваны саветамі. Толькі збегшы ад іх, удалося яму дабрацца да сваіх у Еразалімку і там пражыць вайну да арышту летам 1944 г. Так увогуле С. Грынкевіч меў пяцёра дзяцей, але найстарэйшы сын Багдан памёр немаўляткам у 1928 г. у Познані. Чацвёра (Вітаўт — 1929 г. нар., Вольга — 1930 г. нар., Ганна — 1931 г. нар. і Багдан Францішак — 1934 г. нар.) пераыжыло вайну, вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі (1941-1944). Не ведаю чаму Зоська Верас пісала ў тым жа лісце, што „старшая дачка Вольга — лекар, памерла ў 1935 (1936?) г. на рака”. Гэта нейкі абсурд. Няўжо так напісала сама Зоська Верас, ці не перапісчык нешта паблытаў? Зоська Верас перапісвалася з Вітаўтам Грынкевічам, што вынікае з яе лістоў. Ведала, што працаваў куратарам асветы ў Эльблангскім ваяводстве і жыў у Мальбарку. Толькі чамусьці ў лісце Фёдару Ігнатовічу ад 10 жніўня 1979 г. напісана, што жыў „здаецца, у Магдэбургу” (с. 168). Пералічаючы „літаратурныя” працы С. Грынкевіча, Зоська Верас паблытала крыху іх загалоўкі. Каб пазбегнуць блытаніны, падаю іх правільныя назвы: „Ab teatry”, „Žanimstwa pa radjo”. Варта згадаць, што ўспомненыя кнігі былі друкаваны лацінкай. Здаецца толькі кніга „У братоў украінцаў” была надрукавана кірыліцай. Зоська Верас падала таксама такую „літаратурную працу” „Як лячыць хваробы хатнім спосабам”. Магчыма, што такая была, але мне, на жаль, гэтая праца невядомая і не сустрэла яе ў бібліяграфіі Юркі Туронка „Książka białoruska w II Rzeczypospolitej” (Warszawa 2000). Гэтыя ўсе заўвагі павінны быць змешчаны ў каментарах, але, на жаль, іх там няма.

Зоська Верас прабавала ў лістах давесці сваім карэспандэнтам пра двух Станіславаў Грынкевічаў (старэйшага і малодшага), якіх пасля ІІ сусветнай вайны часта блыталі. Дарэчы, не пазбег гэтага таксама і ўкладальнік. У імянным паказальніку ёсць іх двух, але с. 122, да якой прыпісаны малодшы, якраз павінна быць пры старэйшым. У каментары малодшаму прыпісваецца ўдзел у рэдкалегіі „Калосься” (с. 436), а ці не быў ім якраз старэйшы? Медыцыну таксама канчаў ён падчас вайны ў Берліне, а не ў Вільні. Дарэчы, і Зоська Верас няшмат ведала пра малодшага, калі напісала, што выехаў ён у 1947 г. (с. 162).

Апрацаваўшы лісты Мар’яна Пецюкевіча, уяўляю цяжкасць такой працы, таму з пашанай стаўлюся да ўсіх, хто стае перад такім тытанічным выклікам. Каментар да лістоў з’яўляецца асабліва важнай — і самай цяжкай — часткай працы пры іх публікаванні. Чытаючы чужыя лісты, паяўляецца шмат пытанняў наконт апісаных там падзей і асоб. Заданнем каментатара ёсць іх паясняянне. Укладальнік змясціў каментар у канцы кнігі (с. 420-454), перад імянным паказальнікам. Ён даволі багаты, хаця можна ў ім знайсці і памылкі, якія пастараюся зараз выправіць. Калі каментатар піша, што не ўдалося яму высветліць асобу Уладзіміра Станкевіча (с. 432), адсылаю яго да „Лістоў” М. Пецюкевіча (с. 85), дзе знаходзіцца кароценькая біяграма Ул. Станкевіча: „(6.10.1909 Бераставіца — 2.01.1992 Варшава) — у міжваенны перыяд дзеяч КПЗБ, пасля вайны ў дыпламатычнай службе ў Бельгіі, у 1958-1963 гг. старшыня ГП БГКТ, пазней працаваў у Міністэрстве ўнутраных спраў, аўтар падручнікаў для беларускіх школ”. Гэтыя звесткі шмат што могуць паясніць, калі Зоська Верас успамінае гэтую асобу. Здараюцца памылкі ў каментары, такія як гады жыцця Язэпа Фарботкі, які памёр у 1956 г. (не ў 1960, с. 424, 447) у Лодзі, Серафімы Кішко, якая памерла ў Гданьску ў 1953 (не ў 1958 г., 430, 454), Лукаша Дзекуць-Малея, які нарадзіўся ў 1888 г. (не ў 1988 г., с. 444), Антона Войціка, які нарадзіўся ў 1898 г. (не ў 1998, с. 427), Тодара Вернікоўскага, які памёр у 1938 г. (на с. 426 — пасля 1935 г.). Такіх хібаў ёсць больш. На некалькі недакладнасцей хачу яшчэ звярнуць увагу. У лісце (10) Ларысе Геніюш Зоська Верас цытуе строфку беларускай песні з адной з кніг „Cat-Mackiewicza” (с. 99). У адпаведнай зносцы каментатар паясняе, што мова пра рэдактара газеты „Слово”, але чамусьці памяняў яму імя са Станіслава на Вацлава (с. 430). У лісце (230) Дануце Бічэль чамусьці вядомаму краязнаўцу з Германавіч Кліменцію Кожану памяняў імя на Аляксандра (с. 445). Дарэчы і зараз ён там жыве і далей даследуе Шаркаўшчынскі раён.

У некаторых месцах здзіўляе брак спасылак, напр. у лісце Дануце Бічэль (136) паяўляецца Іра Ніжанкоўская, якая дасюль жыве ў Радашковічах. Не хапае таксама спасылкі на Веру Ніжанкоўскую, яе маці і першую жонку Браніслава Тарашкевіча, якая паяўляецца ў лісце Ларысе Геніюш (188). У лісце Аляксею Пяткевічу (191) гаворыцца пра Яна Тарасевіча, на якога таксама няма спасылкі. Пару разоў ва ўспамінах і лістах (с. 40, 48, 50, 59, 148, 271) паяўляецца Амброжы Кастравіцкі (брат Каруся Каганца) і яго прозвішча не трапіла ў каментар, а варта прыгадаць, што нарадзіўся ён у 1871 г. у Цывінску на Сібіры, у 1897 г. закончыў медычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта; у 1901-1920 гг. працаваў лекарам у Лідзе, Свянцянах і Менску (1916-1917); у 1917 г. быў старшынёй з’езду, на якім быў абраны Беларускі Нацыянальны Камітэт у Менску; з 1920 г. жыў у Варшаве, а ў 1925 г. атрымаў гаспадарку ў Белагрудзе пад Лідай, дзе і памёр у 1937 г. Калі ідзе пра Глеба Багдановіча (с. 428), таксама вядома калі ён памёр — 1 кастрычніка 1971 г. (глядзі мой тэкст „Białoruski senator”, „Czasopis”, 2001, № 12, с. 30).

Багаты імянны паказальнік у кнізе (с. 455-466) дазваляе ўявіць сабе кругазор кантактаў Зоські Верас у розныя перыяды яе жыцця. Кнігу ўзбагачваюць здымкі — з сямейнага альбома з розных часоў. На шматлікіх з іх карэспандэнты Зоські Верас, як доказ таго, што не толькі перапісваліся з ёю, але і ў яе гасцілі. Часам выклікаюць сумненні падпісаныя пад імі гады, а адносна навейшых здымкаў шкада, што не пад усімі вядомыя іх аўтары — бо яны ж таксама былі прысутныя — толькі рабілі здымкі і ў многіх выпадках асталіся ананімнымі.

Астаецца мець надзею, што гэта не апошні том лістоў Зоські Верас. А была ж яшчэ зваротная сувязь... Але гэта ўжо новы выклік, які патрабуе не толькі грошай, але і часу на пошукі, камп’ютарны набор, апрацоўку.

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

# Спатканне ў чамадане

Пахучы ванілінам і кардамонам Клуб-кафэ „Валізка” ў Белавежы быў гаспадаром сустрэчы з беларускай народнай песняй. У вечар святога Андрэя выступіла там крынская „Зараніца”. У паўсвятле, пры свечках шматлікая публіка выслухала аповедаў пра піліпаўскія традыцыі Крыншчыны і шляхецкіх „Песень з наваколля”, значыць з адэльска-сакольскіх Гарчакоў. Выліканы крынчанкамі дух стагоддзяў натхніў сабраных на асаблівую дыскусію. Яны з сумам заўважылі, што вельмі рэдка чуецца беларуская мова на белавежскай вуліцы. Людзі проста саромеюцца, не дацэньваюць свайго культурнага багацця. „А яшчэ трыццаць гадоў таму ўсе размаўлялі тут амаль выключна па-беларуску”, — прызнаўся адзін з удзельнікаў дыскусіі. Сярод прысутных былі таксама госці з розных куткоў Польшчы. Усе аднязначна пацвердзілі звышчасовасць і непаўторнасць тэкстаў і мелодыкі беларускіх народных песень, якія абараняюцца нават у сціплай вакальна-інструментальнай аранжыроўцы. Гледзячы на вялікую колькасць прысутных, а таксама на іх разнароднасць ва ўзроставым плане, можна смела сцвердзіць, што такога тыпу кліматы запатрабаваныя. Да такіх высноў дайшлі таксама заснавальніцы араматнай „Валізкі”. Эліза Лазоўская і Моніка Шабалоўская-Кочук не наракаюць на недахоп кліентаў нават і ў мёртвы сезон. У невялікім, але надта цёплым і густоўным інтэр'еры, добра адчуваюць сябе і мясцовыя, і турысты з усяго свету. Не апраўдаліся прагнозы жыхароў Белавежы, якія не давалі ім больш чым месяц „жыцця”. „Валізка” святкуе ўжо паўгоддзе. Якім яно было і як усё пачалося жанчыны расказалі нашаму штотыднёвіку.

Эліза заўсёды працавала ў гасцінічна-маркетынгавым бізнесе. Яе марай была прафесійная незалежнасць. На творчасць Моніку — былую канторскую работніцу натхнілі дзеці. Пачаткова дзяўчаты — маладыя мамы — творчы талент дэманстравалі, ладзячы занproblemкі і мерапрыемствы для наймалодшых дзетак у мясцовай школе і доме культуры. Не хапала свайго кутка. Доўга вяліся дзелавыя перагаворы з уладальнікамі невялікай, праўдападобна былой жыдоўскай мураванкі. Ад кліентаў жанчыны даведаліся, што раней працавала тут, між іншым, краўчыха і кветачніца. Іх месца заняў цяпер клуб-кафэ з добра заарanжаванымі старымі канапамі, сталамі накрытымі колішнімі ўласнаручна звязанымі сурвэтамі і, канешне, чамаданамі. Чаму, менавіта падарожны рэквізіт стаў вядучым матывам іхняга клуба-кафэ?

— Больш за дзесяць гадоў таму лёс адправіў нас у Белавежу з уласнымі чамаданамі, — адказвае Моніка. — Нашы госці таксама з'язджаюцца сюды з багажом. У валізку можна пакласці шмат рэчаў і ідэй. Мы не канцэнтруемся выключна на каве ці гарбаце. Нашая валізка адкрытая для ўсіх. Яна змяшчае розныя здарэнні: майстар-класы, канцэрты, вернісажы, удзел у турыстычных праектах. У ёй памесціцца шмат што яшчэ. З новымі ініцыятывамі выходзім і мы, і нашы госці. Цешыць тое, што гэтае месца ствараем разам. Нехта прапануе паказаць тут свае здымкі ці карціны, хтосьці хоча зайграць ці заспяваць. Не так даўно выступіў у нас з сольным канцэртам Тодар Вайцюшкевіч. У рамках выставачнага цыкла „З валізкай праз свет” нам удалося паказаць Амерыку на фотаздымках падляшскага эмігранта Уладзіміра Кулака. Потым пайшла Расія, якой я вельмі захапляюся, — прызнаецца Моніка. — Яе сфатаграфаваў Рафал Кавальчык з Белавежскага інстытута біялогіі млекакормячых. Бяльшчанін Адам Фалькоўскі запрэзентаваў нам Падляшша. Цяпер мы ў Егіпце, пабачаным аб'ектывамі фотаапаратаў жыхарак Белавежы Паўліны Шафранскай і Івоны Ручынскай. У планах, між іншым, Грэцыя, Партугалія, Дамінікана і Тыбет. Мы тут сустракаем шмат цікавых людзей, з якімі падтрымліваем кантакты. Да нас прыходзяць і дзеці, і дарослыя. Гавораць, што добра ім тут, як ва ўласнай хаце. Нашы сямейныя ачагі таксама гараць для ўсіх. Іх полымя лёгка было перанесці і на прафесійны грунт.

Эліза і Моніка дбаюць пра кожную дэталь. Усё павінна тут вылучацца арыгінальнасцю і непаўторнасцю. Самі падбіраюць і кампануюць каву, якая трапляе сюды непасрэдна з месца яе працы. З Францыі імпартуюць царскую, рускую гарбату, піва і закускі прывозяць з Літвы. Асноўнае меню трымаецца ўсходнееўрапейскіх напрамкаў.

— Гэта ўсё ідзе сваім пуцём, ведзенае сэрцам і пазітыўнай энергіяй, — сцвярджаюць яны. — Мабыць, у тым і заключаецца наш поспех.

Злева: Моніка Шабалоўская-Кочук і Эліза Лазоўская з „Валізкі”.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

---

ZVONKA

**http://zvonka.by**

Калісьці адзін бальшавіцкі лідар, помнікі якому ў неймавернай колькасці дагэтуль стаяць у беларускіх гарадах, хоць ён там ніколі не быў, казаў, што „з усіх мастацтваў для нас найважнейшым з'яўляецца кіно”. Такую выснову ён зрабіў, зыходзячы з таго, што гэтаму кіно тады было можа пару дзесяткаў гадоў. Таму, зразумела, карцінкі, якія рухаліся, пакідалі на паспалітыя масы ў тыя часы значна большае ўражанне, чым нейкія танцы, малюнкі ці тэатральныя пастаноўкі. Але час бяжыць няўмольна і тое, што сто гадоў таму здавалася цудам, сёння даступна кожнаму падлетку. Зрабіць нейкае кароткае ўласнае відэа, хай сабе непрафесійнае, але з цікавым сюжэтам, дасць рады практычна кожны. І вось табе, калі ласка, дакументальны фільм.

Праўда, каб гэтае кіно больш-менш цікава глядзелася, лепей, канешне, даверыцца прафесіяналам. Асабліва ўлічваючы, што сёння стваральнікаў рухомых карцінак значна болей, чым сто гадоў таму. І некаторыя з іх аб'ядналіся ў відэапрадакшн-студыю „Звонка”. Дэтальна з ёй пазнаёміцца дапаможа нам сайт **http://zvonka.by**.

Выглядае сайт даволі просценька. На галоўнай старонцы няма аніякай тэкставай інфармацыі. Затое месціцца кароткі відэаролік, які ў своеасаблівы спосаб прэзентуе „Звонку”. Адметна, што ў роліку не пачуць аніводнага слова — уладальнікі сайта лічаць, што студыю можна прэзентаваць без слоў, адным відэарадам. Магчыма, яны маюць рацыю.

„Ці хапае ў Вас грошай на якасны відэапрадакшн? Не? Якасны = дарагі? Так, але не зусім. Насамрэч, сёння не патрэбна выдаткоўваць дзесяткі тысяч даляраў, каб ствaрыць прафесійнае відэа. Гэтага дазваляюць дабіцца сучасныя тэхналогіі. І мы іх выкарыстоўваем”, — кажуць пра сябе ў рубрыцы „Студыя” яе супрацоўнікі. У той жа рубрыцы яны ўжо прэзентуюць мноства сваіх ранейшых прац, якія, пэўна, былі калісьці заказаны кліентамі „Звонкі”.

Нягледзячы на тое, што відэапрадукцыя даволі добрая крыніца прыбытку, супрацоўнікі студыі „Звонка” гатовы страціць, калі гэта пойдзе на карысць беларушчыны. Пра гэта, прынамсі, напісана на старонцы „Прадакшн”. „Вы можаце разлічваць на зніжкі пры выкарыстанні беларускай мовы ў зносінах з намі і на значныя зніжкі пры рэалізацыі праектаў, якія дапамагаюць развіццю беларускай мовы і культуры. Тэлефануйце, пішыце, далучайцеся да нашых суполак у сацыяльных сетках і сачыце за навінамі!” — заклікаюць супрацоўнікі студыі, падкрэсліваючы, што яны здольныя распрацаваць для кліентаў ідэю, сцэнар, здымкі, мантаж. Абяцаюць дапамогу і на постпрадукцыйным этапе.

Студыйцы ўлічваюць нарастаючую практыку валодання відэапрадукцыяй. Таму прапануюць кліентам, калі тыя, канешне, здольныя самі стварыць сабе кіно, пазычыць абсталяванне ў „Звонкі”. Пра гэта паведамляецца на старонцы „Арэнда”, дзе паказваецца, як працуе кожнае відэапрыстасаванне, што маецца ў гэтай студыі.

Дакладнага адрасу „Звонкі” на сайце знайсці немагчыма. У рубрыцы „Кантакты” мы ўбачым толькі тэлефон, які належыць невядомаму беларускамоўнаму супрацоўніку студыі відэапрадукцыі. Акрамя таго, на кожнай старонцы падаецца і электронны адрас „Звонкі”.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

## Дата з календара

Апошні ваяр супраць бальшавікоў

# 125 гадоў з дня нараджэння Міколы Дзямідава

Беларускі вайсковы і грамадска-палітычны дзеяч Мікола Дзямідаў нарадзіўся ў Гарадку на Беласточчыне 10 снежня 1888 г. Быў сынам Станіслава Катнароўскага і Аляксандры з Каліноўскіх, а прозвішча меў па другім мужу маці. Яго дзед з боку маці, Аляксандр Каліноўскі — родны брат Кастуся Каліноўскага.

У 1905 г. скончыў настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы. У 1907 г. паступіў як вольны слухач на вячэрнія курсы на гістарычна-філалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Пасля працаваў у канцылярыі службы руху управы Прывіслянскай чыгункі. У 1911 г. прызначаны кіраўніком школы чыгункі ў Беластоку.

З 1914 г. на ваеннай службе ў царскай арміі. 1 лютага 1917 г. скончыў Першую Паўлаўскую вайсковую школу. Удзельнічаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі, быў навагардскім акруговым камісарам. З сакавіка да лістапада 1918 г. у нямецкім палоне. Арганізаваў беларускія аддзелы ў Вільні. 1 снежня 1918 г. быў накіраваны як паручнік у Літоўскае міністэрства абароны. З 20 снежня 1918 г. да 1 чэрвеня 1919 г. быў камендантам Гародні. Арыштаваны польскімі ўладамі, сядзеў у Коўне, быў інтэрнаваны ў лагер у Беласток. У 1919 г. увайшоў у склад Беларускай вайсковай камісіі у Вільні.

У 1920 г. у наваколлях Беластока стварыў батальён з 400 чалавек і далучыўся да арміі Станіслава Булак-Балаховіча. У складзе пяхотнага палка ў лістападзе вёў зацятыя баі за Калінкавічы, удзельнічаў у баях над Прыпяццю. Пасля адступлення арміі Булак-Балаховіча на кантраляваную палякамі тэрыторыю, працягваў змаганне аж да студзеня 1921 г., пасля чаго адышоў на польскі бок фронту і быў інтэрнаваны. Батальён Міколы Дзямідава быў апошнім беларускім атрадам, які ў адкрытым баі супрацiўляўся савецкім войскам.

У 1921-1922 гг. быў настаўнікам у Гарадку, потым жыў у Латвіі. У 1940 г. быў арыштаваны і да 1941 г. зняволены ў Маскве на Лубянцы. У 1941-1944 гг. — інспектар школьніцтва ў Латвіі і Беларусі. Быў выкладчыкам у батальёне Беларускай краёвай абароны.

Быў адным з ініцыятараў сабору Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Канстанцы ў 1948 годзе і аднаўлення БАПЦ пасля адыходу беларускага епіскапату да Замежнай РПЦ. У 1950 г. Мікола Дзямідаў выехаў у ЗША і першапачаткова пасяліўся ў штаце Мічыган, але неўзабаве пераехаў у Чыкага. Мікола Дзямідаў вёў беларускія радыёперадачы, быў актыўным дзеячам Згуртавання беларусаў штата Ілінойс. Быў сярод заснавальнікаў беларускай праваслаўнай парафіі ў Чыкага і першым рэгентам яе хору. Пазней, аднак, Мікола Дзямідаў далучыўся да беларускай уніяцкай парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага і быў адным з найбольш актыўных парафіян.

Апошнія гады свайго жыцця правёў у Лансінгу, дзе памёр у беднасці ў 1967 г. Быў пахаваны грэка-каталіцкім святаром на могілках у Чыкага.

У сённяшняй Беларусі пра Міколу Дзямідава ведаюць толькі тыя, хто вельмі цікавіцца гісторыяй. Напэўна імя гэтага беларускага дзеяча не хутка з'явіцца ў афіцыйных падручніках.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# 2013 год

Калі чалавек старэе, становіцца разважлівейшым, спакайнейшым, павальнейшым, а вось час, які спадарожнічае яму, як быццам наадварот. Ці ж не парадокс гэта? Калі ты нарэшце разважлівей пачынаеш гаспадарыць сваім часам, больш шанаваць яго, даражыць кожнай адпушчанай табе хвілінкай, днём, тыднем, ён штораз шпарчэй і шпарчэй праходзіць, уцякае ад цябе. Проста здаецца, што маланкава ўцякаюць дні, месяцы, гады. Вось і гэты наш, дзве тысячы трынаццаты, год праляцеў, здаецца, як чалябінскі метэор.

Давайце яшчэ раз аглянемся назад і прыгадаем якім жа быў гэты 2013? Якім мы яго бачылі праз вокны сваёй кватэры і праз акенца тэлевізара, бо праз гэтыя вокны можна было слядзіць як за сваёй бліжэйшай аколіцай, так і за светам цэлым.

І так, граніцай паміж Старым і Новым гадамі з'яўляецца навагодняя ноч. Хаця яна прысутная ў абодвух гэтых гадах, але найважнейшая яе роля і слава менавіта ў тым, што яна распачынае Новы год. Вось ад яе і распачынаем разглядаць 2013 год. Якой была гэтая навагодняя ноч?

Была надзвычай цёплай, як на такую пару года. Пад яе плюсавай тэмпературай раставалі рэшткі снегу і лёду. Было мокра і брудна. Мы з бабкай і ўнукамі не ляглі спаць, бо хацелі сустрэць і прывітаць прыход Новага года. Урачыстая прывітальная працэдура, як і многія іншыя ўрачыстасці, адбываецца ў нас у паркавым амфітэатры. Вось перад дванаццатай гадзінай ночы мы і адправіліся туды. А там ужо сабралася мноства народу.

Там была музыка, песні, танцы, кароткая прамова бургамістра і феерверкі, феерверкі, феерверкі...

Ад Новага года да праваслаўнай Каляды надвор'е было плюсавае, сырое, гнілое, нездаровае, але ўвесь час адчувалася святочная, калядная атмасфера.

Проста чарадою адзін за адным пачалі наступаць не толькі будзённыя дні, але і розныя святы ды прысвяткі: рэгіянальныя, парафіяльныя, дзяржаўныя, каталіцкія, праваслаўныя... А калі і гэтага мала тваёй святочнай душы, можам дасвяткаваць яшчэ нейкім рамаданам, кучкамі ці іншымі рэлігійна-свецкімі мясцовымі ўрачыстасцямі. Усё гэта з году ў год рэгулярна на нашай святой Беласточчыне адбываецца і, трэба сказаць, добра маецца. Найбольш бачнымі, найбольш яркімі і святочнымі з іх з'яўляюцца, канешне, дзяржаўныя, каталіцкія і праваслаўныя святы. Урачыстасці іншых канфесій, менш візуальна каларытныя, але хто хоча пачуць іх і пабачыць, можа. Усё гэта не штучнае, не з турысцкай падкладкай, а самае сапраўднае, натуральнае, ад душы і сэрца, як кажуць. І ўсё гэта таму, што тут здаўна пражываюць людзі розных нацый, канфесій і традыцый. Дзе ж вы штосьці падобнае яшчэ знойдзеце, пачуеце, убачыце?!

Жывуць гэтыя нацыі і канфесіі, дзякуй Богу, даволі дружна і дружалюбна — і так павінна быць навекі, бо толькі згода будуе. А што каталіцкая і праваслаўная канфесіі колькасна найбольшыя і жывуць тут супольна з давён-даўна, імёнамі іх выдатных сыноў знітавана амаль уся польская гісторыя і каралеўская дынастыя, ці не варта было б нарэшце выбраць нам супольага для Беласточчыны ці Падляшша нябеснага патрона? Выдатных кандыдатаў на ролю нябеснага заступніка нашага Падляшша ёсць многа. Вось хаця б князь Астрожскі. Быў ён патрыётам моцна заслужаным для Польшчы і бескампрамісным веруючым праваслаўным. Усё сваё жыццё прысвяціў менавіта гэтаму.

Пасля лірычнага адступлення, вяртаймася зноў да падзей 2013 года.

Наступным, пасля Новага года, вялікім і важным святам было праваслаўнае Раждаство Хрыстова. Яго надалей святкуе наш народ па поўнай як праваслаўнай, так і каталіцкай праграме. Але нейк вяла — цішэй, спакайней, без кавалерскай фантазіі, без громкіх песень, масавых танцаў, без мардабояў, адным словам, больш ужо па-еўрапейску, як па-нашаскаму. І проста сам не ведаю: ці радавацца гэтым зменам, ці наадварот... Надвор'е ўсе святочныя дні было як бы і не зімовым, бо амаль зусім бясснежным, але стабільным, у меру халаднаватым, ціхім і па-свойму прыгожым, нейкім загадкавым. Менавіта ў такую ноч і магло нарадзіцца Святое Дзіцятка. Сапраўдная нашая тутэйшая зіма наступіла аразу пасля Раждаства: падуў халодны вецер, пасыпаў снег, тэмпература апала ніжэй нуля і стала балансаваць вакол мінус пяці градусаў. Такое прыгожае зімовае надвор'е трымалася дзесьці да 19 студзеня, а потым тэмпература панізілася да мінус дзесяці.

У міжчасе ўспелі мы адсвяткаваць і Стары Новы год, і каталіцкае Trzech Króli, і праваслаўнае Вадохрышча, і некалькі прысвяткаў. Гэтыя святы святкаваліся яшчэ больш вяла як Раждаство, бо і меншыя яны рангам. Народ крыху стаміўся ўжо святкаваннямі. Найвясялейшым з іх з'яўляецца, канешне, Стары Новы год. Гэтае свята не толькі не выпала з цвёрдага графіка нашых тут праваслаўных святкаванняў, а наадварот, набрала новага размаху і каларыту і надалей прадаўжае нашы вясёлыя навагоднія традыцыі. Яны шпарка папулярызуюцца па мясцовым радыё і тэлебачанні...

Трэба тут сказаць, што тутэйшы праваслаўны наш народ трымаецца сваёй веры і царкоўных традыцый. Даволі актыўна ходзіць у царкву. У добрым стане ўтрымоўвае свае храмы і ўвесь час будуе новыя. Пракладае ўсё новыя і новыя паломніцкія шляхі ў святыя мясцы. Даволі многа і на добрым узроўні выдаецца рэлігійная літаратура. Папаўняюцца царкоўныя кадры добра адукаванымі святарамі. Развіваецца іконапісанне і царкоўная музыка. Такіх фестываляў царкоўнай песні, якія ўжо многія гады адбываюцца ў нас, на правінцыйнай Беласточчыне, зайздросцяць нам многія вядомыя музыкальныя цэнтры. Астаецца толькі радавацца ўсяму гэтаму, што мы паціхеньку і робім. А таксама развіваць, культываваць нашы традыцыі, прывіваць любоў да іх нашаму маладому пакаленню.

*(працяг будзе)*

**Васіль САКОЎСКІ**

1 ☞ працяг Іаанна Стэльмашук-Троц:

— З бабуляй і татам я размаўляю такім мяккім беларускім, ліцьвінскім дыялектам.

У гадзінным прадстаўленні былі выкарыстаны падляшскія песні, распрацаваныя Дарафеем Фіёнікам і Сцяпанам Копам, таксама выкарыстаныя на два галасы ў поўнасці іх сугучнасці. Уся гісторыя адбываецца ў сціплым сцэнічным афармленні (Луцыі Гжэшчук). Актрысы іграюць ледзь некалькімі рэквізітамі. Іаанна Стэльмашук-Троц у ролі прыгорбленай (у танцы аднак поўнай жыццярадаснасці) Старушкі і Багамаці прымяняе маскі. Дакладна валодае жэстам, асабліва ў сцэне размовы Ермы з Багамаці, якая паказваецца на здзіўленне гледачоў на другім баку люстра, а тэкст выказваны ёю сугучны з ігрой далонямі, прыводзячы на памяць сакральныя марыйныя абразы. У сваю чаргу ігра галоўнай гераіні, назалежна ад таго, што тузаная дылемамі, не страчвае нявіннасці, мяжуючай у сённяшнім разуменні маральнасці з наіўнасцю, паслядоўна правакуючы гледачоў, каб задаць сабе пытанне аб актуальнасці праблемы адзінства жаночых душы і цела, і, наогул кажучы, сарамлівасці і сацыяльнай стыгматызацыі, асабліва ў вёсцы, вынікаючых з немагчымасці мець сваіх дзяцей.

Спектакль з'яўляецца таксама дыпломнай працай Юліяны Дораш, студэнткі апошняга курса акцёрскага факультэта беластоцкай Тэатральнай акадэміі, які раней таксама кончыла яе сцэнічная партнёрка, і зрэалізаваны дзякуючы мастацкай стыпендыі прэзідэнта горада Беластока, якую ў гэтым годзе атрымала на яго рэалізацыю Іаанна Стэльмашук-Троц.

Перад прэм'ерай у БЛТ мела месца прамоцыя нядаўна апублікаванай кнігі „Teatr białoruski 1920-1930. Teatr i zagłada" пры ўдзеле яе аўтара Андрэя Масквіна, родам з Нясвіжа, цяпер выкладчыка гісторыі беларускай літаратуры, культуры і мастацтва ды беларускай мовы ў Варшаўскім універсітэце. Аб кнізе і сустрэчы з аўтарам — праз тыдзень.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Адгаданка

1. мазырская рака, 2. ільдзіна на рацэ, 3. адтуліна, якая закрываецца векам, напрыклад, у танку, 4. партнёр бабы, 5. гадавіна, напрыклад, дзесяцігоддзе, 6. Марк, амерыканскі пісьменнік (Samuel Clemens, 1835-1910), 7. „егіпецкая" опера Джузепе Вердзі, 8. штат на захадзе Індыі, колішняя партугальская калонія, 9. частка складанай цэласці, асоба ў грамадскай арганізацыі, 10. мангольская „хата", 11. правы прыток Прыпяці ў Лельчыцах, 12. ніжняя частка беластоцкага герба, 13. наяўнасць мінулага, напрыклад, адбітак нагі на дарожцы.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | | | | | | | | 2 |
| | 3 | | 4 | | | | | | 5 | | |
| | | | | 6 | 7 | 8 | | 9 | | | |
| | | | | | | | | 10 | | | 11 |
| | 12 | | | 13 | | | | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — арабская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 45 нумара**

Аса, вал, дуб, куколь, мі, нож, партыя, Рона, сені, сыта.

Рашэнне: **Сужонства і макарона добрыя пакуль не астылі.**

# 15.12 — 21.12

**Баран (22.03. — 20.04.)** Твая нерашучасць у якой-небудзь справе затармозіць поспех. Перабольшваеш свае праблемы. Усё вырашыцца само сабой, нічога не страціш і зразумееш, што дарма перажываў. Магчыма, пазбавішся ад пачуцця турботы і невыразных імкненняў, калі пераставіш мэблю ў сваім доме. У панядзелак неабходна будзе набрацца цярпення і вытрымкі, каб пазбегнуць канфліктаў з блізкімі і падначаленымі. У аўторак пажадана адкласці ўсе паездкі, асабліва далёкія.

**Бык (21.04. — 21.05.)** На працы выйдзеш на простую дарогу і запануеш над хаосам. Дбай аб зубы і суставы. Не насі пры сабе шмат грошай. 16-18.12. будзеш нервовы і крытычны! Зважай на зайздросных жанчын — схочуць намяшаць у тваёй прафесійнай рэпутацыі.

**Блізняты (22.05. — 22.06.)** Знойдзеш у каханай асобе апору і падтрымку. Знойдзеце кампраміс. Будзь вельмі асцярожным 16-18.12.: пагражае нервовая атмасфера на працы, накладуцца на гэта хатнія турботы. Не злуйся на дзяцей. Зацікаўся нейкім спортам — зачатае цяпер стане руцінай на ўвесь год.

**Рак (23.06. — 23.07.)** 15.12. і 19-23.12. прынясуць табе і твайму партнёру прыліў грошай. Але самотныя Ракі няхай пачнуць ашчаджаць. Пагражае табе счэпка з кіраўніцтвам. Калі шукаеш працы — можаш пачаць рабіць на сваім. На нервы — ненайлепшае «лякарства» ласункі ці папяросы.

**Леў (24.07. — 23.08.)** Тэлефонныя званкі цэлымі днямі, нечаканыя госці і выпадковыя сустрэчы. Панядзелак — дзень кантрастаў. На аўторак не варта планаваць сустрэч з прадстаўнікамі дзяржаўных кантрольных інстанцый. У сераду будзеш бадзёры і ініцыятыўны, атрымаюцца ўсё справы. У чацвер клопаты аб дадатку да зарплаты могуць быць недарэмнымі. Калі ў пятніцу ў доме раптам расчыняцца вокны і дзверы, гэта абяцае страту грошай і спусташэнне.

**Дзева (24.08. — 23.09.)** Узбуджэнне і нецярпенне, з якімі ты гатовы фінансаваць любую ідэю, могуць прынесці табе сур'ёзныя страты. Калі на працы маеш справу з буйнымі матэрыяльнымі сродкамі, падумай болей сямі разоў перад тым як аддаць у чужыя рукі свае кроўныя зберажэнні. Калі ў панядзелак знойдзеш манету арлом уверх, гэта прадказвае фінансавыя цяжкасці, даўгі і лішнія выдаткі.

**Шалі (24.09. — 23.10.)** Поўня Месяца 17.12. пазволіць табе інакш глянуць на сябе і свае дасягненні. Шмат спраў высветліцца. Маеш шанц паказацца з зусім іншага боку. Сцеражыся ўсяго, што гучыць занадта добра, каб быць сапраўдным. Выкарыстоўвай у поўнай меры свае творчыя здольнасці, каб знайсці далейшыя ідэі і напрамкі дзейнасці. Камандзіроўку, прызначаную на панядзелак, аўторак або чацвер, варта адкласці.

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** Нічога не вырашай у фінансах 17.12. Старанна складзі план дзеянняў на тыдзень. Пастарайся нічога не ўпусціць, і тады будзе забяспечаны поспех. Не марнуй зашмат часу на забавы, займіся грамадскімі справамі. Магчыма, спатрэбіцца змяніць коды доступу да сакрэтнай інфармацыі.

**Стралец (23.11. — 22.12.)** Накіруй намаганні на паляпшэнне свайго сацыяльнага становішча. Наступае зручны час, каб звярнуцца да экспертаў. Не прабуй вырашаць нешта самастойна, не будучы спецыялістам у нейкай сур'ёзнай справе. Плёткі. Не імкніся даведацца, хто запусціў іх у людзі, а проста дай па заслугах усім сваім зайздроснікам адразу!

**Казярог (23.12. — 20.01.)** 16-18.12. не разлічвай на вялікія прыбыткі; хтосьці можа цябе падвесці або кепска ацэніш сітуацыю. Пачні праводзіць у жыццё свае планы. Не бойся дзіўных думак — такім чынам твая падсвядомасць дае табе знак аб блізкасці кардынальных перамен у тваім жыцці.

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** Знайдзі ў сабе сілы, каб пакіраваць справамі дакладана так як хочаш. 17-21.12. будзеш вельмі ласомы; старайся есці здаровае. Будзь асцярожны і не прымай падарункаў ад малазнаёмых і тым больш ад добра вядомых людзей.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** 16-18.12. можаш быць меланхалічны, могуць ускладніцца твае прфаесійныя справы. Шанцы ад лёсу ў кар'еры. Пятніца: калі бліжэйшыя суткі правядзеш па-за сваёй хатай, то ўвесь наступны год таксама будзеш пастаянна знаходзіцца ў дарозе. Купі сабе што-небудзь у суботу.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

**5 снежня адбыліся ва Універсітэцкай бібліятэцы імя Ежы Гедройца ў Беластоку міжнародныя дэбаты на тэму „Беларусь, Літва, Польшча і Украіна — поспехі, няўдачы і перспектывы суседства — палітычныя, эканамічныя, культурныя і міжчалавечыя адносіны, узаемныя міфы і стэрэатыпы". Галоўным арганізатарам мерапрыемства быў Інстытут гісторыі і палітычных навук Беластоцкага ўніверсітэта, а персанальна прафесар Яўген Мірановіч. Удзельнікамі абмену думкамі былі вучоныя з чатырох названых краін.**

# Усходняе суседства (ч.1)


Алег Латышонак і Яўген Мірановіч

Прафесар **Андрэй Садоўскі** з Беластоцкага ўніверсітэта выказаў меркаванне на тэму фармавання транснародаў ды перспектыў узнікаючых у выніку такіх падзей суб'ектаў. Аб'ектам ягонай увагі была трансфармацыя традыцыйных народаў у ходзе адбываючыхся грамадскіх працэсаў, выкліканых бурным развіццём міжчалавечых камунікацый, у тым ліку і інфармацыйных. У сучасным свеце слабеюць усялякія межы, не толькі дзяржаўныя, адміністрацыйныя ці канфесійныя. Але тыя межы не чэзнуць, бо чалавек увесь час адчувае патрэбу стварання новых каардынат, парадкавання свайго месца ў свеце, захоўваючы, аднак, свой менталітэт. У выніку міграцый адносна кампактныя дагэтуль народы пераплятаюцца ўзаемна, ствараючы новыя грамадствы. Мігранты, не парываючы кантакту з грамадствамі свайго вываду, уносяць туды частку сваіх традыцыйных адметнасцей. У якасці прыкладу такіх працэсаў дакладчык прывёў палякаў, што выязджаюць за мяжу, не парываючы, аднак, кантактаў са сваім карэнным асяроддзем у Польшчы, але і не цураючыся ўдзелу ў жыцці краіны, у якую яны прыбылі. Некаторыя назіральнікі гэтых працэсаў прарочаць нават узнікнене постнацыянальных соцыумаў. Транснародамі можна лічыць аўтахтонныя нацыі ў спалучэнні з пасяляючыміся побач іх дыяспарамі ды меншасцямі, а нават іх сімпатыкамі. Паняцце транснароду можна асцярожна праекціраваць у абшар усходняга памежжа Польшчы. Тут бачым разнароднае супрацоўніцтва тытульных народаў са сваімі замежнымі меншасцямі. Шмат людзей з Усходу, напрыклад каля ста пяцідзесяці тысяч украінцаў, працуе ў Польшчы, шмат тут вучыцца замежных студэнтаў. Адбываецца таксама трансграннічнае супрацоўніцтва на ўзроўні самаўрадаў.

Прафесар **Алег Латышонак** сказаў пра геапалітыку Беларусі. Геапалітыка арганізуе думку пра вялікія прасторы ды ўплывае на ход палітычных працэсаў. Польскія пачынальнікі геапалітыкі бачылі сваю краіну ў межах да падзелу Рэчы Паспалітай. Беларусы доўга прымервяліся да вызначэння сваёй тэрыторыі, напрыклад Францішак Багушэвіч лічыў, што Беларусь там, дзе жывая беларуская мова. І гэта ў галоўным стала эталонам беларускай геапалітыкі, зводзячы Беларусь да этнаграфічных каардынат. Шматлікія вучоныя прывязвалі геапалітыку да рачных цячэнняў. У Польшчы найбольш папулярным стала г.зв. „арлінае гняздо" — гэта папросту басейн рэк выплываючых з паўднёвых гор і ўліваючыхся ў Балтыку; яно амаль тоеснае з тэрыторыяй сучаснай Польшчы. Думку ўкраінцаў арганізаваў басейн Чорнага мора, рэчкі, якія туды ўліваюцца. Аркадзь Смоліч, пачынальнік беларускай геаграфіі, намагаўся сфармуляваць існаванне прыроднай беларускай прасторы ў вярхоўях Дняпра, Дзвіны і Нёмана, якая адвечна была месцам баёў між Усходам і Захадам. Брытанскі палітолаг Эндр'ю Вілсан прыкольна заўважыў, што тэрыторыю Беларусі складаюць непраходныя лясы і балоты, куды насельніцтва хаваецца да часу выхаду набежчыкаў. Пакольні палякі і ўкраінцы прывязваюць свае краіны да мора, беларусы ўзіраюцца ў напрамку крыніц. Ужо „Аповесць мінулых гадоў" згадвала пра рассяленне крывічоў — беларускую этнагенетычную легенду — што сядзяць яны ў **вярхах** Волгі, Дзвіны і Дняпра. За панаванне над **вярхамі** на працягу некалькіх стагоддзяў змагаліся Вялікае Княства Літоўскае і Вялікае Княства Маскоўскае; з моманту завявання Смаленска перавагу стала браць Масква. Зважаючы на важнасць **вярхоў** захоп Украіны не быў так важны Маскве, як захоп Смаленска. А зявяршылася ўсё тое ліквідацыяй Вялікага Княства Літоўскага і ўсёй Рэчы Паспалітай. Пасля прыйшла чарга на доступ да ўсіх мораў, выцякаючых з **вярхоў**. Паявілася нават тэорыя, што хто пануе над **вярхамі**, той пачаргова пануе над буйнейшымі прасторамі — уключна з цэлым светам...


Люба Козік


Уладзімір Снапкоўскі

Дацэнт **Люба Козік** з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта паінфармавала пра вобраз палякаў у школьных падручніках Рэспублікі Беларусь. Супольная падручнікавая камісія не дзейнічае, у гэтай справе нейкіх дзяржаўных установак няма, а пункт падручнікавага гледжання супадае з поглядамі аўтараў падручнікаў. Ды гэтых поглядаў нямнога, заключаны яны ў падручніках па гісторыі і грамадазнаўстве. У агульнасці дачыненне палякаў да Беларусі разглядаецца з саюза Польшчы з Вялікім Княствам Літоўскім, калі пачынаецца распаўсюд каталіцызму на яго тэрыторыю. Падкрэсліваліся частыя супярэчлівасці, якія, аднак, прыцiхалі ў выпадках вонкавай пагрозы. Шмат увагі адводзілася польскім паходам у Расію з мэтай атрымання прыбытку за кошт Масквы. Польшча разглядалася і як вораг у адносінах да Расіі, і як саюзнік у барацьбе з Турцыяй. Падзелы Польшчы былі ініцыяваны Аўстрыяй і Прусіяй, а Расія была вымушана прылучыцца да іх. Пазнейшы час характарызуецца германізацыяй з боку Прусіі і Аўстрыі. Падкрэслівалася, што створанае ў 1815 годзе Каралеўства Польскае атрымала канстытуцыю. Рэдка затое згадвалася, што тая канстытуцыя часта парушалася. Паўстанне 1830-31 гадоў разглядалася як акт няўдзячнасці з боку палякаў. Але паралельна згадвалася, што беларусы таксама прымалі ўдзел у польскіх паўстаннях XIX стагоддзя, што было ўзаемнае супрацоўніцтва. Указвалася, што палякі, так як і рускія, былі чужымі беларусам і да гэтага прыводзіліся выказванні польскіх шавіністычных палітыкаў. Аднак падкрэслівалася і высокі ўзровень польскай культуры і яе ўплыў на розныя сферы грамадскага жыцця беларусаў. Міжваенны перыяд разглядаўся ў ракурсе нацыянальнага прыгнёту беларусаў. Згадваючы пра рух супраціўлення ў перыяд Другой сусветнай вайны, аўтары не адзначалі найбольшых акцый Арміі Краёвай, абмяжоўваючыся да канстатацыі, што АК змагалася так з немцамі, як і з савецкімі партызанамі. Асветныя рэформы 1990 і 2008 гадоў зменшылі колькасць інфармацыі пра Польшчу. Няма ўжо згадак пра апалячванне, толькі паведамляецца, што беларуская шляхта сама ўспрымала польскія здабыткі. Вобраз Польшчы становіцца больш нейтральным, хаця з некаторымі элементамі крытыкі да палякаў. Аднак, падводзячы, навучэнцы беларускіх школ так і не атрымліваюць нейкай сур'ёзнай інфармацыі пра палякаў.

Прафесар **Уладзімір Снапкоўскі** з Мінска сказаў пра польска-беларускія адносіны ў бягучым стагоддзі. Аднак пачатак таго перыяду трэба аднесці да канца 1996 года, да рэферэндуму і яго наступстваў, якія не былі прызнаны заходнімі дзяржавамі. З таго часу Захад стаў праводзіць новую палітыку ў адносінах да Беларусі, якая атрымала назву крытычнага дыялогу. За мінулы час адносіны мяняліся адлігамі і замаразкамі, але не набылі характару сапраўднага суседскага супрацоўніцтва. Беларуска-польскія адносіны за той перыяд супадаюць з адносінамі беларуска-еўрапейскімі, хаця адносіны з Польшчай набылі сваю спецыфіку — яны ў прынцыпе значна горшыя ад еўрапейскага фону. Уваход Польшчы ў НАТА выклікаў у Беларусі вострае крытычнае стаўленне, калі акцэсія ў Еўрасаюз успрымалася спакойна. З 2002 па 2008 год Еўрасаюз праводзіць пакрокавую стратэгію адносна Беларусі. У той час беларуска-польскія адносіны зведалі ў 2005 годзе востры палітычна-дыпламатычны канфлікт, звязаны з сітуацыяй Саюза палякаў Беларусі. Пасля выбараў 2006 года Польшча чарговы раз — паводле Мінска — унесла закалот у беларуска-еўрапейскія адносіны, прабуючы рэлізаваць у Беларусі сцэнарый каляровай рэвалюцыі. З 2008 да 2010 года — этап адлігі. Але не да снежня, толькі да студзеня, да канфлікту вакол Польскага дома ў Івянцы. Са снежня 2010 года да апошняга часу — этап замярзання. Пасля ўвядзення санкцый у пачатку 2012 года беларускія ўлады загадалі пакінуць Мінск толькі аднаму еўрасаюзнаму паслу — паслу Польшчы. Зараз беларуска-польскія адносіны — у тупіку, з якога выхаду не бачна. За адносіны Беларусі з Польшчай горшыя толькі адносіны са Злучанымі Штатамі Амерыкі, у якіх ужо шэсць гадоў Мінск не мае пасла. Прычын такой сітуацыі некалькі, у тым ліку і агульная гістарычная спадчына, і наяўнасць вялікай польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі, і геапалітычны ды культурна-цывілізацыйны фактар, і гістарычная палітыка. Шматлікія двухбаковыя заявы пра паляпшэнне ўзаемных адносін астаюцца толькі заявамі.

Доктар **Андрэй Казакевіч** з Лятучага ўніверсітэта імя Вітаўта Вялікага асвятліў адносіны Беларусі з краінамі Усходняга партнёрства. Гэтыя адносіны ў розных дзялянках дзяржаўных дачыненняў розныя па інтэнсіўнасці і аб'ёме з рознымі краінамі Партнёрства апрача Грузіі, з якой кантакты Беларусі на мінімальным узроўні. У агульнасці кантакты Беларусі з краінамі УП значна актывізаваліся з 2000 года ў сувязі з ускладненнем беларуска-расійскіх адносін з прыходам да ўлады ў Расіі Уладзіміра Пуціна; Беларусь была вымушана дыверсіфікаваць свае эканамічныя і палітычныя сувязі. Адносіны Беларусі з суседняй Украінай вельмі няўстойлівыя, кан'юнктурныя. Вось у апошні час Януковіч бачыцца Лукашэнкам як канкурэнт да ўвагі Масквы, таму і адносіны між імі насцярожваюцца.

Доктар **Алесь Лагвінец** таксама закрануў тэму Усходняга партнёрства. Завязана яно было не толькі дзеля ладжання стыкоўкі найбольш высунутых у бок Еўрасаюза постсавецкіх краін, а і пэўным штуршком для гэтага была расійска-грузінская вайна, да якой краіны УП, акрамя Беларусі, ставіліся ў агульнасці нейтральна; ініцыятыва мела восьадной са спадарожных мэт карэктуру беларускага палітычнага вектара. Рэгіён краін УП неаднародны, паасобныя краіны двухбакова пярознаму звязаныя з Расіяй, няма паміж імі інтэграцыйных ці кааліцыйных фактараў. Да таго ж у абшары УП наяўныя зоны г.зв. замарожаных канфліктаў — Карабах і Прыднястроўе.

Доктар **Рафал Чахор** з Ніжнесілезскай вышэйшай школы прадпрымальніцтва і тэхнікі ў Палькавіцах сказаў пра пазіцыю Украіны ў шматвектарнай замежнай палітыцы Беларусі. У замежнай палітыцы Беларусі былі дагэтуль тры выразныя фазы. Першая, да прыходу Лукашэнкі да ўлады, была спробай раўнаважнага балансу між Усходам і Захадам. З прыходам Лукашэнкі яна выразна павярнула свой вектар ва ўсходнім напрамку. З прыходам да ўлады ў Расіі Пуціна, які стаў больш патрабаваць ад постсавецкіх дзяржаў, Беларусь звяртаецца ў бок г.зв. шматвектарнай палітыкі, разглядаючыся за іншымі чым Расія партнёрамі, напрыклад, у напрамку Кітая, Венесуэлы ці Ірана. З Украінай справа выглядала складана. Хаця адсутнасць істотных канфліктаў і шмат аднолькавых прадпасылак здаваліся схіляць абедзве краіны да сябе, аднак такога не было. Былі аднак разыходжанні наконт узаемных разлікаў пасля роспуску СССР ды нелімітаваная граніца. У нелімітаванні граніцы беларускім бокам была зацікаўлена Расія, каб перашкодзіць збліжэнню Украіны да НАТА; альянс патрабуе ад краін-супрацоўніц урэгуляваных дзяржаўных межаў. Пасля Аранжавай рэвалюцыі зноў нейкі час назіраецца холад у двухбаковых адносінах, аднак неўзабаве Украіна становіцца свайго роду ментарам Беларусі навонкі, за што нават Лукашэнка быў выказаў падзяку Ючшанку ды наведаў Кіеў з афіцыйным візітам. Прыход Януковіча да ўлады прыводзіць да паступовага пахаладання ўзаемных адносін.

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960

